*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА
сям'я

**Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)** | **№ 23-24 (235-236)** | **31 траўня 1995 г.** | **Кошт — 200 рублёў**

*Погляд сябра.* *Стар.4.*

*Пруская вайна.* *Стар.12.*

*1 чэрвеня — Міжнародны дзень абароны дзяцей. У раздзеле «Кола сям'і» на с.9 — гутарка з Вольгай Кузьміч.*

# НЕ ТРЭБА АДЧАЙВАЦЦА!

Яшчэ калі Прэзідэнт мерыўся ажыццявіць сваю «мару ўсяго жыцця» (памятаеце Кебіча?) і правесці рэферэндум па пытаннях, якія яму здаюцца самымі важнымі, важней за здаровую эканоміку, дасведчаныя людзі папярэджвалі Аляксандра Лукашэнку: усё трэба рабіць па закону. Не падабаецца закон? Неабходна спачатку ўстанавіць новы. Урэшце, хто прымушаў чалавека ўсенародна клясціся аберагаць Канстытуцыю? Не, атрымаў уладу і забыўся? Але дзяржаўную сілу Прэзідэнту далі на 5 гадоў, каб за гэты час паспеў паспрыяць дабрабыту народа. І далі Канстытуцыю, вернасці якой ён пакляўся.

Але вось прайшоў гэты ягоны рэферэндум. Дык мала таго, што Канстытуцыяй не вызначана, як яго вынікі ажыццяўляць. Ды проста на цвярозы розум нельга ўявіць, каб невялікая ў працэнтных адносінах перавага адной часткі насельніцтва ў такіх жыццеважных для нацыі пытаннях закамандавала без папярэдняй згоды другую! Нездарма ж і канстытуцыйныя законы ў Вярхоўнай Радзе прымаюцца не менш чымся дзьвумя трэцямі галасоў усіх дэпутатаў. Цяпер палічым. Нават калі ў галасаванні ўзялі ўдзел 65 працэнтаў насельніцтва (а маюць права голасу недзе каля 7 мільёнаў 600 тысяч чалавек), то і мільёны ж людзей не прышлі на выбарчыя ўчасткі!

У Менску толькі каля 52,5 працэнта жыхароў узялі ўдзел у галасаванні. Нават калі б 2 з паловаю працэнты іх прагаласавалі супраць прапаноў Аляксандра Лукашэнкі, — вынік быў бы адмоўным. А супраць жа прагаласавалі болей. Ды плюс тыя амаль 800 тысяч, што не прышлі на выбарчыя ўчасткі. Вось і выходзіць, што сталіца рэспублікі ў пераважнай большасці не падтрымала Прэзідэнта. Як ён будзе ў такіх абставінах дзейнічаць? Сілай? Супроць сталіцы, дзе засяроджаны самыя высокакваліфікаваныя кадры і вялікая колькасць найбольш арганізаваных рабочых?

А ў самым жа рабочым раёне сталіцы — Заводскім рэферэндум якраз увогуле не прайшоў. Працоўны люд яго адвергнуў, прагаласаваўшы, як кажуць, «нагамі». Тое ж самае і ў Маскоўскім раёне. У 11 акругах Менска ў дадатак не адбыліся і выбары. Народ учыніў своеасаблівую забастоўку. І гэта, як мяркуюць аналітыкі, толькі першыя «кветачкі», калі эканамічная сітуацыя ў бліжэйшыя месяцы не палепшыцца.

Тым не менш пагроза існаванню беларускай нацыі створана велізарная. Можа так здарыцца, што становішча не палепшыцца, пакуль не падрасце новае пакаленне выбаршчыкаў, моладзь, якая будзе лепш ведаць гісторыю Беларусі і шанаваць яе тысячагадовыя нацыянальныя сімвалы, яе мову. Не трэба адчайвацца, сябры. Станем яшчэ дружнейшымі, пільнымі і будзем упарта працаваць дзеля адраджэння і росквіту Радзімы. Праз гэта прайшлі многія народы свету, наканавана, выходзіць, і нам.

Просім паважаных чытачоў газеты больш прапагандаваць яе сярод насельніцтва, растлумачваць яе патрэбу для кожнай беларускай сям'і. Актыўна паспрыяйце, сябры, падпісцы і пашырэнню вядомасці «Нашага слова»!

**Эрнэст ЯЛУГІН, рэдактар.**

# Дэмакратычная грамадскасць Расіі ўстрывожана вынікамі выбараў і рэферэндуму ў Беларусі

Адна з самых прэстыжных і высокапрафесійных газет Расіі — «Известия» апублікавала (№ 92, 95) карэспандэнцыю свайго ўласнага карэспандэнта па Беларусі Аляксандра Старыкевіча на першай паласе на самым відным месцы і буйным шрыфтам, зняўшы адсюль усе астатнія традыцыйныя паведамленні сусветных інфармацыйных агенцтваў, што ўжо само па сабе з'ява надзвычайная. Гэта адно сведчыць пра тое, наколькі свядомая частка грамадскасці Расійскай Федэрацыі, на якую ў асноўным арыентуецца газета, устрывожана тым, што дзеецца ў па-ранейшаму калгасна-савецкай па сваёй масавай свядомасці Беларусі. «Канчатковыя вынікі рэферэндуму, — заўважае карэспандэнт, — выглядаюць занадта ўжо ўнушальнымі». Канешне, піша ён, правінцыя і прыхільнікі Лукашэнкі ў гарадах праявілі незвычайную актыўнасць, у той час як многія з тых, хто расчараваўся ў Прэзідэнце альбо ніколі ім і не захапляўся, проста не пайшлі на выбарчыя ўчасткі. «Тым не менш, — заўважае карэспандэнт, — вынікі плебісцыту на дзіва розняцца з дадзенымі ўсіх сацыялагічных апытанняў. Ствараецца ўражанне, што нехта перастараўся». Але ў любым выпадку цвяроза думаючых расіян не можа не трывожыць практычная інфантыльнасць значнай часткі беларускага насельніцтва, якое выхад з эканамічнага крызісу бачыць адно ў падачках «старшага брата» замест таго, каб карыстацца ўласнымі сіламі і розумам. «Пры гэтым, — заўважае карэспандэнт «Известий», — не бярэцца ў разлік добра вядомае, што дарослыя члены сям'і, якімі б харошымі ні былі адносіны паміж імі, гаспадаркі свае вядуць асобна».

Падпісалі, па сутнасці, выбаршчыкі і смяротны прысуд будучаму Вярхоўнаму Савету, бо любы яго склад будзе не задавальняць Прэзідэнта, якому пасля ўсіх сваіх гучных захадаў па барацьбе з беларускай мовай і нацыянальнай незалежнасцю ўсё ж давядзецца ўсур'ёз заняцца пытаннямі як накарміць і абагрэць насельніцтва, а ў такім разе яму трэба будзе вынаходзіць новага ворага сваім саўгасным дзеям.

**У.А.**

**Шаноўныя чытачы!**

**Не з нашай віны не выйшлі 18, 19, 20, 21, 22 нумары «Нашага слова». На сяброўскія ахвяраванні выдаецца гэты здвоены выпуск. Тут вы прачытаеце і пераказ некаторых матэрыялаў з папярэдніх нумароў, што ляжаць у друкарні. Што будзе з імі — пакуль невядома. Але «Наша слова» павінна выходзіць. Актыў-най падпіскай вы падтрымаеце газету.**

***Рэдакцыя.***

*Кангрэс беларусістаў*

# Беларусь паміж Усходам і Захадам

**16—18 траўня** ў Менску працаваў Другі міжнародны кангрэс беларусістаў, у якім узялі ўдзел больш за 300 навукоўцаў з 17 краін свету. Арганізацыйнай базай для кангрэса стаў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, на супрацоўнікаў і дырэктара якога, прэзідэнта Міжнароднай аса-

*(Працяг на с.2.)*





## Развітанне з сцягам

24 траўня ля былога будынка ЦК КПБ, а цяпер — сядзібы адміністрацыі Прэзідэнта, група моладзі колькасцю блізу 200 асобаў правяла акцыю з нагоды, як паведаміў адзін з яе ўдзельнікаў, дзевятага дня пасля абвяшчэння папярэдніх вынікаў прэзідэнцкага рэферэндуму.

Удзельнікі акцыі тройчы абышлі гмах, несучы перад сабой апушчаны сцяг БССР. Потым гэты сцяг быў замацаваны над дзвярыма прыбіральні, што каля прэзідэнцкай рэзідэнцыі, а праз некалькі хвілін дэманстратыўна парваны і спалены. Па сканчэнні падзеі адзін з афіцэраў міліцыі, якія назіралі за тым, што адбывалася, загадаў людзям разысціся і адразу ж даў сваім падначаленым каманду затрымліваць прысутных. Колькасць затрыманых склала каля двух дзесяткаў асобаў, сярод іх — карэспандэнт «Нашага слова» і чалавек з відэакамерай, які прадставіўся міліцыянтам як супрацоўнік камітэта — невядома якога. Абодва яны былі адразу ж вызваленыя. Астатніх было загадана адвесці ў Ленінскі РАУС сталіцы і скласці на іх акты за здзяйсненне дробнага хуліганства.

Сёння сцяг БССР стаў такім жа набыткам гісторыі, як і сцяг «трэцяга райха», што, аднак, не замінае ўладам выступаць у абарону першага. Свой, як кажуць, свайго пазнаў?

**У.ПАНАДА.**
**Фота аўтара.**

*Акадэмік Радзім ГАРЭЦКІ (Менск)*

# Узаемадзеянне паміж Захадам і Усходам у прыродзе і грамадстве Беларусі

Шаноўнае спадарства! Паважаныя і дарагія калегі!

Дазвольце шчыра вітаць Вас ад імя Акадэміі навук Беларусі і Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і пажадаць Вам вялікіх поспехаў, плёну, творчага настрою!

Шыбкі кругабег часу адлічыў ужо 4 гады з I Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Эйфарыя радаснага, хаця цяжкага і маруднага, уздыму Адраджэння, калі была абвешчана незалежнасць краіны беларусаў, былі прыняты «Закон аб мовах», Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і інш., змянілася цяпер вялікім спадам, з цяжкім сумам і едкай гаркотай: пачаўся шалёны напад на матчыну мову, на свабоду слова, старажытныя беларускія сімвалы, адчуваецца непаважлівасць да культуры, навукі, інтэлігенцыі, ідзе паступовая здача незалежнасці — спачатку эканамічнай, а затым і палітычнай. Як не парадаксальна, але гэтая дзевятая хваля антыбеларушчыны, неверагоднага дзікунства ідзе на чале з першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Таму я з асаблівай прыемнасцю і любасцю бачу столькі прыхільнікаў беларускасці. Тут і беларусы з метраполіі, і беларусы з далёкага і блізкага замежжа, і небеларусы па нацыянальнасці, але ўсіх аб'ядноўвае любоў да Беларусі — гэта сапраўдныя спрыяльнікі і рупліўцы беларушчыны. Вялікая падзяка ўсім тым, хто сабраўся тут, шчырая падзяка Вам, хто нёс і нясе ў сваім сэрцы Беларусь!

Чалавек — часцінка прыроды, таму яго гісторыю, яго дзеянні цікава разгледзіць на фоне гісторыі Зямлі, на якой ён жыве, паглядзець, якія сувязі паміж імі, як глыбока ўваходзяць іх карані. Калі мы зробім такі экскурс у некалькі мільярдную геалагічную гісторыю Зямлі, то ўбачым, што Еўропа падзяляецца на дзве часткі: усходнюю — больш старажытную (прыблізна 1,5 — 2-мільярдную) — Усходне-Еўрапейскі кратон (ад грэч. — крэпасць) і Заходнюю — значна больш маладую — Заходне-Еўрапейскую платформу. Мяжа між імі праходзіць на магутнейшай трансеўрапейскай зоне разломаў, якая ідзе праз востраў Барнхольм на Балтыцы, трошку заходней Варшавы і на ўскрай Украінскіх Карпат. Тэрыторыя Беларусі знаходзіцца на заходняй ускраіне Усходне-Еўрапейскага кратона і праз яе праходзіць галоўная субмерыдыяльная геатэктанічная вось гэтага кратона. Яна ўяўляе сабой паласу найбольш высокага залягання крышталічных парод фундамента, якая яднае іх выхады на зямную паверхню на абшарах Скандынаўскага (Балтыйскага) і Украінскага шчытоў. Гэта паласа прыблізна ідзе ад Фінскага затона, праз Чудское возера, Пскоў, к захаду ад Менска і ўсходу ад Пінска.

Кратон з Захаду абмываўся палеакіянам Япетус, а з Усходу — Уральскім палеакіянам. На тэрыторыю Беларусі перыядычна з Захаду пранікалі хвалі кароткіх, але больш глыбокіх мораў акіяна Япетус, а з Усходу — больш працяглых і шырокіх мораў ад Уральскага акіяна. Але ўвесь час на працягу амаль мільярда гадоў паласа заставалася найбольш узнятай і таму звычайна заходнія моры захаплівалі толькі заходнюю частку Беларусі, а ўсходнія — усходнюю. Час ад часу моры двух напрамкаў злучаліся ў бурнай віхуры менавіта на тэрыторыі Беларусі. Усе гэтыя падзеі ішлі на фоне блукання кратону па свеце і яго паваротаў у розныя бакі. І пагэтаму 800 млн. гадоў таму наш кратон быў у Паўднёвым паўшар'і і сучасны Захад быў Усходам, а сучасны Усход — Захадам, а з паўднёвага полюса Зямлі на тэрыторыю Беларусі насунуўся магутны покрыўны ледавік. І цяпер бывае так: каб вярнуцца на Усход, патрэбна дапамога Захаду. Напрыклад, нядаўняя выстава графікі Уладзіміра Савіча ў Маскве змагла адбыцца толькі дзякуючы грошам спонсара — германскага канцэрна «Сіменс АГ».

Толькі каля 400 млн. гадоў таму да Усходняга кратона Еўропы далучыліся землі Заходняй Еўропы, стварыўшы адзіны мацярык. Чаму б і ў сучаснасці Усходняй Еўропе не далучыцца да больш цывілізаванага заходнееўрапейскага жыцця?

У чацвярцёвы (антрапагенавы) перыяд ужо з поўначы на Еўрапейскі мацярык насунуліся новыя покрыўныя ледавікі, на перыферыі якіх жылі мамантын і іншыя жывёлы. З'явіўся і чалавек. Цікава адзначыць, што самы малады (13,5 тысячы гадоў таму) мамант знойдзены ў Беларусі. Зараз вучоныя прыйшлі да высновы, што маманты згінулі па простай прычыне — іх з'еў чалавек. Значыць, калі ў Сібіры і ў Заходняй Еўропе чалавек ужо з'еў усіх мамантаў, апошнім мамантаедам быў чалавек на тэрыторыі Беларусі.

Спадчыннасць алагічнага развіцця адзначанай раней паласы высокага стаяння крышталічных парод прывяла да таго, што менавіта да яе прыстасаваны водападзел Балтыйскага і Чорнага мораў. Адсюль вельмі важныя для гістарычнага развіцця Усходняй Еўропы гандлёвыя шляхі пралягалі праз землі, прыстасаваныя да вызначанай паласы, і перш-наперш праз тэрыторыю этнічнай Беларусі. Гэта — «шлях з вараг у грэкі», Прыпяцка-Бугскі і Заходне-Дзвінскі шляхі.

Магчыма, вялікі закон спадчыннасці, уласцівы і прыродзе, і чалавецтву, які, як мы бачылі, дзейнічае на тэрыторыі Беларусі мільёны гадоў, і не даў канчаткова разбурыць беларушчыну, на якую ўжо сотні гадоў і з Захаду, і з Усходу ідзе навала новаўтварэння і якую, на жаль, нярэдка стараюцца ўзарваць і знутры. Калі раней гены беларускасці захоўваліся галоўным чынам простым сялянствам, якое было бліжэй за ўсіх да роднай прыроды, да сваёй Зямлі, не захварэла чужой культурай і з'явілася базай нацыянальнага адраджэння, цяпер паланізацыя і русіфікацыя пранікла ў самую глыбіню народную і сцяг адраджэння амаль поўнасцю перайшоў да нацыянальна свядомай часткі беларускай інтэлігенцыі, што значна павялічвае цяжкасці на шляху аднаўлення.

Менавіта па гэтай жа субмерыдыяльнай паласе, аб якой я ўжо казаў, прайшла мяжа Заходняй і Усходняй Беларусі, тут ідзе і «народападзел» паміж «заходнікамі» і «ўсходнікамі», кожныя са сваім менталітэтам. Калі на захадзе адчуваецца моцны польскі ўплыў, а ў рэлігіі — каталіцызм, дык на ўсходзе — «тут русский дух, тут Русью пахнет» і большасць людзей — праваслаўныя. Калі на захадзе больш захавалася беларуская самасвядомасць, імкненне людзей да самастойнай дзяржавы, рынкавых адносін, на ўсходзе — манкурцтва дасягнула значна большых памераў, вельмі пашырана настальгія па быломy СССР і сацыялістычнай гаспадарцы. Калі на захадзе большасць выбаршчыкаў галасавала за Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча, дык на ўсходзе — за Аляксандра Лукашэнку і Вячаслава Кебіча.

Геаграфічнае палажэнне Беларусі ў самым цэнтры Еўропы на скрыжаванні шляхоў палітычных, ваенных, гандлёвых і іншых моцна паўплывала на яе гістарычны лёс, на імкненне суседзяў далучыць да сябе гэтую тэрыторыю. Адсюль бясконцыя войны, якія, як правіла, для беларусаў былі не проста абарончыя, а грамадзянскія і канчаліся безлічным знішчэннем людзей. Змена граніц, палітычнага стану, дзяржаўнасці моцна ўплывалі на нацыянальныя, канфесійныя і культурныя ўзаемадзеянні, якія сталі вельмі складанымі; з мудрагелістымі перапляценнямі і інтэрферэнцыяй усіх з'яў. Забарона беларускай мовы, моцная паланізацыя і русіфікацыя прывялі да заняпаду ўласна беларускай культуры, і таму многія выхадцы з Беларусі сталі выдатнымі дзеячамі культуры суседніх ці іншых народаў. Дастаткова ўспомніць Адама Міцкевіча і Фёдара Дастаеўскага, Станіслава Манюшку і Міхаіла Глінку, Ігната Дамейку і Мікалая Пржавальскага, працяг вялікі. Культурная спадчына многіх сыноў Беларусі не лічыцца беларускай. Але элементы беларушчыны мы можам у большасці з іх заўсёды знайсці, і гэта вельмі важны напрамак даследчай працы. Многія з'явы культуры можна лічыць супольнымі здабыткамі народаў-суседзяў.

15 траўня гэтага года мы адзначылі 150-годдзе з дня нараджэння ўраджэнца в.Свольна Дрысенскага ўезда (зараз Верхнядзвінскага раёна) Віцебскай губерні, выдатнейшага рускага натураліста і падарожніка Івана Чэрскага, які заўсёды пісаў пра сябе, што ён — сын ліцвіна. Атрымаўшы прапольскае выхаванне, быў сасланы ў Сібір за ўдзел у паўстанні К.Каліноўскага, якое, дарэчы, часта завуць «польскім». Сібір стала для яго другой радзімай, вывучэнню якой ён прысвяціў усё сваё жыццё.

Цяжкая гісторыя Беларусі садзейнічала шматлікай эміграцыі беларусаў як на Захад, так і на Усход. Узнятыя на кангрэсе праблемы немагчыма разглядаць без укладу беларускай дыяспары ў культуру, навуку і іншыя напрамкі

(Заканчэнне на с.4.)

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Ад музейнай экзотыкі — да рэальнага і паўнакроўнага нацыянальнага жыцця

***Слова на Другім Міжнародным кангрэсе беларусістаў 16 траўня 1995 года***

Вельмі шаноўныя калегі!

У праграме кангрэса маё выступленне названа дакладам — гэта не зусім адпавядае рэальнасці. Усяго на ўсяго я хацеў бы падзяліцца з вамі некаторымі сваімі разважаннямі наконт станаўлення і ажыццяўлення ідэі беларускай дзяржаўнасці ў кантэксце тэмы Кангрэса «Беларусь паміж Усходам і Захадам».

Загадзя прашу прабачэння за вельмі фрагментарны і недастаткова сістэматызаваны выклад маіх думак па гэтым пытанні.

Асэнсоўваючы сённяшняе дзяржаўнае становішча Беларусі, спрабуючы ўявіць, што нас чакае заўтра, якімі шляхамі і праз якія выпрабаванні нам давядзецца прайсці, мы, зразумела, не можам не азірацца і не ўглядацца ў сваё далёкае і не так далёкае мінулае. Гэта абсалютна неабходна, каб лепш зразумець сябе і лепш бачыць дарогу наперад. Як бы ні горка было гэта рабіць.

Тое, што павінна было забяспечыць беларускаму народу пастаянна высокі дабрабыт, квітненне і шчасце, стала прычынай яго бясконцых няшчасцяў, яго цяжкага жыццёвага лёсу, яго глыбока драматычнай гісторыі. Маю на ўвазе геапалітычнае размяшчэнне Беларусі на карце Еўропы, што зрабіла яе паквапным кавалкам для больш энергічных блізкіх і далёкіх суседзяў і ўвесь час натхняла іх на прыбранне гэтага кавалка да рук, на эканамічную, палітычную і духова-культурную экспансію.

Пачаліся гэтыя нашы драмы і трагедыі вельмі даўно, яшчэ ў часы існавання магутнай сярэдневяковай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, якое было і нашым дзяржаўным гаспадарствам, аб чым сведчыць сама яго назва. Паступовы заняпад, а затым і ліквідацыя гэтай дзяржавы былі вынікам менавіта чужаземнай экспансіі, хоць садзейнічалі гэтаму і іншыя, так бы мовіць, унутраныя прычыны, на якіх у гэтым разе спыняцца не выпадае, тым больш, што яны толькі садзейнічалі працэсу, а не вызначалі яго.

На мой погляд, з вышыні часу, у які ўклаліся многія стагоддзі, сёння ўжо можна зусім пэўна гаварыць, што ўзніклая калісьці задума распачаць экспансію на ўсход, на землі ўсходнеславянскіх народаў, была вялікай стратэгічнай памылкай Польшчы і Рымска-каталіцкага касцёла, які яе ў гэтым падтрымліваў і, можна сказаць, натхняў. На заходніх этнічных рубяжах Беларусі і Украіны павінна была быць і замацавацца мяжа паміж Еўропай усходняй з аднаго боку і Еўропай цэнтральнай і заходняй — з другога. Не жалезная сцяна адчужэння, а празрыстая мяжа дружбы і супрацоўніцтва паміж добрымі суседзямі, мяжа, якая толькі прымушае лічыцца з правамі суседа і паважаць яго. На вялікі жаль, экспансія на ўсход пачалася. Не кажучы пра Беларусь, наўрад ці гэта было ў нацыянальных інтарэсах самой Польшчы. Замест таго, каб мець побач за мірнага і дружалюбнага суседа суверэннае, незалежнае Вялікае Княства Літоўскае, Польшча ўсё зрабіла для таго, каб стаць суседкай грознай і ваяўнічай Расійскай імперыі.

Экспансія Польшчы на ўсход зруйнавала ў рэшце рэшт нашу дзяржаўнасць і на цэлыя стагоддзі зрабіла беларускі народ недзяржаўным, — а гэта значыць, на стагоддзі затармазіла натуральны, свабодны працэс яго палітычнага, духовага і культурнага развіцця, развіцця яго нацыянальнай самасвядомасці. Была перарвана ўсталяваная і багатая традыцыя кніжна-літаратурнай мовы, у выніку чаго новая беларуская літаратура, у адрозненне ад, скажам, рускай ці польскай, пачала заяўляць пра сябе вельмі запознена, толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя, і цалкам на вуснагутарковай народнай мове, а не на глыбокай і плоднай глебе мовы літаратурнай, дагледжанай і культываванай у часы Вялікага Княства. Што ж да сфераў навукі і справаводства, дык тут пачатак выкарыстання беларускай мовы зацягнуўся яшчэ амаль на стагоддзе, аж да 20-х гадоў XX веку — да першай, нядоўга трывалай беларусізацыі ва ўмовах БССР. Гэтак жа, як літаратура, з аслабленнем і заняпадам нашай дзяржаўнасці ўсё больш слабелі і нацыянальна-беларускія асновы прафесійнай мастацкай культуры — прафесійнага тэатра, музыкі, жывапісу, дойлідства і інш. Бясспрэчна, гэта вельмі трагічныя старонкі нашай гісторыі — і мы, напэўна, пра іх бы не гаварылі, калі б паследкі той трагедыі не адбіліся на ўсім далейшым лёсе нашага народа і краіны, калі б мы, беларусы, і сёння не адчувалі на сабе і ў сабе гнятлівы груз тае цяжкае спадчыны, ад якога ўсё ніяк канчаткова не вызвалімся. Была падточана і ў значнай меры зруйнавана сама душа народа — шчодрая, таленавітая і самабытная славянская душа, якую, недабітую, недамучаную, недараспятую, пачалі пасля вядомых падзелаў Рэчы Паспалітай бязлітасна і апантана руйнаваць ужо з другога боку — з усходняга.

Горкая праўда Гісторыі... Горкая спадчына, якая дасталася нам з мінулага. І з ёю, гэтай спадчынай, у памяці мы, аднак жа, верым, што яна не будзе ўскладняць ні сёння, ні заўтра нашых добрых узаемаадносін з суседзямі.

Шматвекавую гісторыю ўзаемаадносін Беларусі з Расіяй нават і спадчынай цяжка назваць, бо яна ў вельмі адчувальнай меры — жывая рэальнасць, яна прамаўляе і заяўляе пра сябе на кожным кроку. Ды яшчэ як заяўляе! Чаго варты адно праведзены ў нас два дні назад гэтак званы ўсенародны рэферэндум! Бадай што нечуванае ў гісторыі цывілізаванага свету з'явішча: кіраўнік дзяржавы ініцыіруе рэферэндум з мэтай асудзіць на пагібель мову асноўнага карэннага насельніцтва краіны і канчаткова дабіць гістарычную памяць народа — ліквідаваць яго гістарычную нацыянальна-дзяржаўную сімволіку! Яшчэ больш нечуванае і сумнае, што народ падтрымаў гэтую амаральную, нялюдскую ініцыятыву! Праўда, падтрымка гэта — даволі адносная: ад агульнай колькасці выбаршчыкаў — каля 54% прагаласавала за дзяржаўную рускую мову і каля 49% — за новую, г.зн. за былую бэсэсэраўскую сімволіку. І тым не менш — прадэманстраваны ўсяму свету вынікі нацыянальнай палітыкі, якая ажыццяўлялася на Беларусі звыш 400 гадоў — спачатку Захадам, затым — Захадам і Усходам, і нарэшце — асабліва Усходам. На апошнім хацелася б трохі запыніцца.

Як шаноўнай аўдыторыі добра вядома, неўзабаве па далучэнні Беларусі да Расіі (канец XVIII ст.) пачалася імперская каланізацыя беларускіх зямель, насаджэнне ў нашым краі ваенных расійскіх гарадкоў, расійскіх памешчыкаў, чыноўнікаў, адміністратараў, а затым — і настаўнікаў, і юрыстаў, і святароў (замест каталіцкіх і уніяцкіх). Каб гэта не выглядала прымусовай, гвалтоўнай русіфікацыяй, у сярэдзіне XIX ст. была прыдумана і грунтоўна распрацавана г.зв. тэорыя «западно-русизма», паводле якой беларусы — гэта толькі частка адзінага рускага племя, іначай сказаць — гэта рускія, якія жывуць на захадзе Расіі, гавораць на дыялекце рускай мовы і ў пэўнай меры маюць свой гістарычны лёс — былі заваяваны літоўцамі і палякамі. Па зразумелых прычынах, «тэорыя» набыла надзвычай вялікае пашырэнне, на цэлае стагоддзе стала непрыхаваным афіцыйным пунктам гледжання. Усё, што было з ёю не ў згодзе, што процістаяла ёй, — бязлітасна жорстка падаўлялася. Прычым, доўгі час — пад выглядам падаўлення «польскай інтрыгі», намераў Польшчы аднавіць сваю дзяржаўнасць у межах Рэчы Паспалітай 1772 года.

Бядотнае становішча беларускага народа, яго мовы і культуры ў ярме царскай імперыі — агульнавядомае, і паўтарацца няма патрэбы. Варта падкрэсліць іншае, а менавіта тое, што ні адна палітычная сіла ў Расіі пачатку XX ст. і зусім напярэдадні лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. — ад манархістаў-чарнасоценцаў да эсэраў і бальшавікоў — не прызнавала права беларускага народа на

(Заканчэнне на с.4.)

## ЗВАРОТ

### да Кабінета Міністраў і грамадзян Рэспублікі Беларусь

Мы, удзельнікі II Міжнароднага кангрэса беларусістаў, глыбока занепакоены тым становішчам беларускамоўнай прэсы, якая фінансуецца дзяржавай. З недахопу сродкаў, як гэта тлумачаць журналістам афіцыйныя асобы, апошнім часам назіраецца нерэгулярны выхад у свет газет і часопісаў і нават зрыў выхаду нумароў асобных выданняў. Так, у першай палове траўня чытач не атрымаў два нумары штотыднёвіка «Наша слова», органа Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Дзіўна, што гэты зрыў па часе супаў з правядзеннем рэферэндуму, адно з пытанняў якога тычылася надання расійскай мове роўнага статуса з беларускай. Пад пагрозай нявыхаду і астатнія травеньскія нумары названай газеты — выдання, якое займаецца праблемамі функцыянавання роднага слова ў Беларусі. Журналісты згаданай катэгорыі перыёдыкі знаходзяцца ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы.

У той жа час на некалькі парадкаў вышэй па ўсіх параметрах забяспечваецца жыццядзейнасць расійскамоўных і расійска-беларускамоўных выданняў.

Удзельнікі кангрэса, якія з розных краін свету з'ехаліся ў Мінск, каб абмеркаваць надзённыя пытанні развіцця беларускай культуры, звяртаюцца да Вас з пераканаўчай просьбай — забяспечыць ва ўмовах цяпер ужо ўзаконенага двухмоўя роўныя матэрыяльна-тэхнічныя ўмовы існавання (побач з расійскамоўным друкам) той прэсы, якая выдаецца на беларускай мове — мове карэннай нацыі нашай Бацькаўшчыны.

**Адзінагалосна прыняты ўдзельнікамі кангрэса.**
**18 траўня 1995 г.**
**г.Менск.**

Актуальна!

# Погляд сябра

## «Шчыра зычу поспеху Беларускаму Адраджэнню!..»

*З вядомым расійскім пісьменнікам, літаратуразнаўцам і палітолагам, супрацоўнікам Цэнтра знешнепалітычных даследаванняў Інстытута міжнародных эканамічных і палітычных даследаванняў РАН Юрыем Сураўцавым гутарыць рэдактар грамадска-культурнага аддзела «Нашага слова», сустаршыня Асацыяцыі свабодных СМІ пры Беларускай лізе правоў чалавека Алесь Мікалайчанка.*

**— Паважаны Юрый Іванавіч! Вось ужо другі раз за кароткі прамежак часу мы з Вамі сустракаемся на буйных міжнародных форумах, якія праходзяць у Беларусі. У мінулым годзе — на Кангрэсе ў абарону дэмакратыі і культуры «Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя», а сёлета, вось, — на Другім Кангрэсе беларусістаў. За гэты час у палітыка-культурным жыцці нашай краіны адбыліся вялікія змены. У Беларусі з'явіўся Прэзідэнт, каторы ініцыяваў рэферэндум з пытаннямі аб наданні расійскай мове статуса роўнага з беларускай (маецца на ўвазе — статуса дзяржаўнай мовы), аб замене дзяржаўнай сімволікі, аб эканамічнай інтэграцыі Беларусі з Расіяй і надзяленні Прэзідэнта паўнамоцтвамі распускаць парламент, калі той груба парушае Канстытуцыю. Што Вы можаце сказаць з нагоды правядзення ўсенароднага галасавання, што адбылося 14 траўня 1995 года?**

— Дазвольце мне выказаць сваю думку па першых двух пытаннях рэферэндуму... Спадзяюся, што мяне не папракнуць ва «ўмяшанні» ва ўнутранае жыццё дзяржавы-суседкі, дзяржавы-прыярытэта для маёй Расіі, дзяржавы-сястры, калі я скажу, што і як палітолаг, і як рускі інтэлігент дэмакратычнай арыентацыі (як цяпер гавораць пра раскалатую інтэлігенцыю) наогул не лічу, што першыя два, а то і ўсе чатыры пытанні вырашаюцца па метаду «большасць заўсёды мае рацыю». Аб гэтым, дарэчы, добра пісаў Віктар Каваленка ў «ЛіМе» перад рэферэндумам.

Адважуся на абагульненне: вынікі рэферэндуму і яго форма не ўмацавалі Беларускае Адраджэнне, а адкінулі яго назад.

**— Вы сімпатызуеце Беларускаму Адраджэнню?**

— Сімпатызую. У тым ліку і перш за ўсё — адраджэнню беларускай мовы, мовы братняга славянскага народа. Нашыя культуры і мовы, калі кожная жыве паўнакроўным жыццём, узаемаабагачаюцца, беларуская мова жывіць сваёй лексікай рускую мову. І вось, на табе — апошнюю пераўтвараюць у мову-«агрэсара», якая, хочам мы таго ці не хочам, але ў існуючых сёння ўмовах яшчэ больш звузіць сферу ўжывання беларускай. А мне патрэбна, каб Ваша мова жыла, развівалася і набірала моцы!

**— Паколькі ў нашым рэферэндуме, прынамсі, у двух пытаннях з чатырох праглядаецца «расійская тэма», я ўсё ж хацеў бы пачуць Ваша меркаванне накант беларусізацыі як разумення пэўнага палітычнага працэсу.**

— Калі мець на ўвазе беларускае адраджэнне-самавызначэнне, то, сапраўды, размову трэба весці пра новую беларусізацыю (першую таталітарызм-сталінізм з ягоным фальшыва-інтэрнацыяналісцкім фасадам задушыў у 20—30 гады) — пра беларусізацыю шматбаковую як разумення, у якім інтэгруюцца і нацыянальна-дэмакратычная суверэннасць, і яе гаспадарчая, знешнепалітычная ды культурная самастойнасць, «ідэнтычнасць» і «бытие» самой беларускай мовы, што, маючы тытул мовы дзяржаўнай, усё роўна не перастала мець патрэбу ў разумнай падтрымцы. Зразумеем ісціну: працэс набыцця і развіцця нацыянальнай свядомасці не ў адной Беларусі праходзіў доўгі, цяжкі шлях (і гэта адносіцца перш за ўсё да народаў, якія складалі неаўтаномныя па-сапраўднаму «часткі» вялікіх дзяржаў, імперый. Вось і беларуская нацыянальная самасвядомасць, амаль, але не поўнасцю, згубленая ў тым ці іншым перыядзе яго цяжкай і доўгай гісторыі... І сёння... Так, сумна, што быў дадзены гэткі адказ на першыя два пытанні рэферэндуму, але факт застаецца фактам: беларускі народ не бяжыць прыскакам услед за лозунгамі і заклікамі партый нацыянальна-дэмакратычнага спектру. Так, яшчэ большая частка насельніцтва не ўсвядоміла этнакультурнага значэння беларускай мовы. Значная частка — супраць таго, каб гістарычная сімволіка была сімволікай дзяржаўнай. Але ж і адчайвацца не трэба: беларушчына мае першапачатковы «плацдарм» у сэрцах і розумах людзей, адкуль можна весці далейшы рух. Нашчадкі тых, хто знішчаў першае прысавецкае Беларускае Адраджэнне, усё роўна прайграюць. І я ганаруся, што сярод беларускіх «нацдэмаў» 20-х гадоў было шмат рускіх інтэлігентаў, сапраўдных інтэлігентаў-дэмакратаў, якія прысвяцілі свае жыцці служэнню высакароднай справе — менавіта Беларускаму Адраджэнню. Пра іх чамусьці не згадвае прэса тых, хто выступае саюзнікамі — несвядомымі і свядомымі, добраахвотнымі! — «неаімперцаў» у цяперашняй Расіі.

**— На вялікі жаль, гаворка можа ісці пакуль толькі пра плацдарм беларусізацыі. Тут я з вамі, Юрый Іванавіч, згодны. Але хацелася б, натуральна, большага...**

— Беларускай справе шмат што і шмат хто перашкаджае. Мы ў інстытуце займаліся праблемамі постсавецкай эпохі ў краінах былога СССР, і я шчыра зазначу (хай на мяне не крыўдуюць руплівцы на адраджэнскай ніве): вашы адраджэнцы не разлічылі свае сілы ды і займаліся больш звонкімі воклічамі, лозунгізацыяй, чым канкрэтнай і карпатлівай шматбаковай будзённай работай, асабліва ў вядзенні міжнацыянальнай палітыкі. Вы, напрыклад, мелі рацыю, калі крытыкавалі шавіністычна-імперскія перажыткі ў расійскім істыблішменце. Але сходу ўсё прайгралі, калі бяздоказна пачалі даводзіць беларусам, што рускія — гэта «лапікавы» народ, увесь народ заражаны імперскім мысленнем. Ну, а паўтара мільёна рускіх, што жывуць у Беларусі, пагадзіліся з падобнымі характарыстыкамі? Не! Не пагадзіліся, я ведаю, і многія прыкметныя лідэры ў нацыянальна-дэмакратычным руху. Некаторыя з іх, наадварот, высунулі ідэю кансалідацыі грамадства, паступовага ўтварэння міжнацыянальнай супольнасці — беларускі народ — на падставе адзінай для ўсіх этнасаў, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі, патрыятычнай ідэі, у якую ідэя Беларускага нацыянальнага Адраджэння ўліваецца як дамінанта. За сто апошніх гадоў у складзе Рэчы Паспалітай, за гэтулькі ж — у складзе царскай Расіі, за семдзесят — пад катком сталінісцкіх «эксперыментатараў» па зліцці этнасаў і моў тут было як закамплексаваць мазгі мільёнам і мільёнам. І калі ўлічыць, што маюць месца намаганні як унутры Беларусі, так і ў Расіі па вяртанні вашай рэспублікі ў разрад «часткі адзінага цэлага», то стане зусім зразумела: акрамя нястомнай працы адраджэнцаў на гэтай ніве, яшчэ востра неабходны час. Сур'ёзна памыляюцца, я ўпэўнены, тыя вашыя дзяржаўнікі, якія падумаюць, зыходзячы з лічбаў рэферэндуму, што час працуе, маўляў, на дэнацыяналізацыю. Сур'ёзна памыляюцца!..

*Кангрэс беларусістаў*

*Акадэмік Радзім ГАРЭЦКІ (Менск)*

# Узаемадзеянне паміж Захадам і Усходам у прыродзе і грамадстве Беларусі

(Заканчэнне. Пачатак на с.3.)

дзейнасці Беларусі і іншых краін. Агульнабеларуская культура — гэта сінтэз культур беларусаў свету: метраполіі, дыяспары і ўсіх беларусістаў.

Вельмі важнае пытанне — працяг дыялогу па вяртанні культурных і гістарычных каштоўнасцяў Беларусі як з заходніх, так і з усходніх краінаў.

У геалогіі існуюць два вельмі эфектыўныя метады даследаванняў — параўнаўча-геалагічны і картаграфічны, — які, на маю думку, могуць прынесці вялікія здабыткі ў тых праблемах, якія мы зараз з вамі разглядаем. Аналагічны беларускаму стан з мовай, самасвядомасцю этнасу, вызваленчых і адраджэнскіх рухаў, мелі і маюць многія іншыя нацыі (славакі, чэхі, македонцы і інш.). Вывучэнне такіх феноменаў, узаемнае параўнанне іх стану і развіцця дапаможа лепш зразумець гістарычную і сучасную сітуацыю, а таксама і прадбачыць магчымыя шляхі далейшых напрамкаў, змяненняў і неабходных дзеянняў.

Картаграфія — найбольш сціслы і аб'ектыўны графічны паказ сінтэзу тых ці іншых ведаў. Таму картаграфаванне самых разнастайных паказчыкаў і элементаў культуры, мовы, фальклору, гісторыі, этнасу і г.д. — надзвычайна эфектыўны метад даследаванняў, які трэба больш шырока ўжываць. Безумоўна, тут патрэбны вельмі вялікі банк дадзеных, які немагчыма стварыць без сучаснай кампутарнай тэхнікі. Прыкладам такой цікавай працы з'яўляецца «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак», які зараз асобнымі тамамі выходзіць з друку.

На заканчэнне я хацеў звярнуць увагу на экалагічны стан — стан дому нашага, які мае два аспекты — глабальны і рэгіянальны (тэрытарыяльны). На жаль, абодва выклікаюць вельмі вялікую трывогу. На Беларусь з захаду ідуць кіслотныя дажджы, з усходу — насоўваецца агромністая азонавая дзірка, якая навісла над большай часткай Расіі. Крызісны стан гаспадаркі, нізкая агульная культура, варварска-спажывецкі падыход да прыроды не спрыяе паляпшэнню экалагічнай сітуацыі і ў самой краіне. Да таго ж дабаўляецца чарнобыльская навала. Небяспечнасць экалагічнай катастрофы ў тым, што яна прыходзіць паступова, непрыкметна, чалавек не заўважае яе падыходу і раптоўна аказваецца перад жудаснай безданню. Калі гэта здарыцца, чалавецтва будзе мець толькі адну галоўную праблему — як бы выжыць. Ды будзе ўжо позна...

Але пакуль агонь беларускай нацыянальнай ідэі будзе гарэць у сэрцах беларусаў, пакуль наш розум будзе імкнуцца здзейсніць мару пра дзяржаўнасць Беларусі, пакуль будзем любіць і шанаваць нашу васільковую і шыпшынную Бацькаўшчыну, пакуль не пакінем матчыну мову нашу, не здрадзім ёй, не адарвёмся, як той Антэй, ад роднай зямелькі нашай, датуль Беларусь будзе непераможнай, датуль будзе жыць беларускі народ. Жыве Беларусь!

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# Ад музейнай экзотыкі — да рэальнага і паўнакроўнага нацыянальнага жыцця

***Слова на Другім Міжнародным кангрэсе беларусістаў 16 траўня 1995 года***

(Заканчэнне. Пачатак на с.3.)

самавызначэнне, на сваю дзяржаўнасць, нават на нацыянальна-культурную аўтаномію. Усе, без вынятку, стаялі на пазіцыях «западно-русизма» і адмаўлялі існаванне беларусаў як асобнай нацыі і беларускай мовы як адной з самастойных славянскіх моў. Можна не сумнявацца, што калі б не інтэнсіўны нацыянальны рух на Беларусі і не абвяшчэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі — урад Савецкай Расіі не пайшоў бы на ўтварэнне БССР. Абставіны прымусілі яго зрабіць беларускаму народу гэту міласцівую ўступку. З шасці беларускіх губерняў выдзелілі шэсць паветаў і сказалі: вось вам ваша дзяржава БССР. Радуйцеся!..

Даваць ці не даваць беларускаму народу права на ўтварэнне БССР крамлёўскія правадыры ставілі ў залежнасць ад поспехаў сацыялістычнай рэвалюцыі ў Еўропе. Калі там не ўспыхне рэвалюцыя — тады БССР нейкі час хай пабудзе, а калі ўспыхне і пераможа — тады ніякая БССР не патрэбна. Або каб аблегчыць становішча Савецкай Расіі і ўратаваць савецкую ўладу — прымаецца рашэнне: няхай палавіна Беларусі адыдзе пад Польшчу. Ну падумаць — бяда такая: чатыры мільёны беларусаў апынуліся за мяжою!.. Вось такая логіка, такі інтэрнацыяналізм, такое братэрства працоўных. Але і на лапіку тэрыторыі ў шэсць паветаў на пачатку 20-х гадоў моцна закрынічыла беларускае жыццё. Ідэолагі і руплівцы беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння паверылі ў лозунгі новай улады і шчыра ўзяліся за працу. У пачатку 20-х яны яшчэ не ведалі, што прымаюць удзел у непрыстойнай забаве чырвоных царадворцаў. Яны не ведалі, што ўжо ў 22-м годзе Іосіф Сталін, з уласцівым гэтаму клану цынізмам, пісаў Ульянаву-Леніну: «Маладое пакаленне камуністаў на ўскраінах гульню ў незалежнасць адмаўляецца разумець як гульню, упарта прызнаючы словы аб незалежнасці за чыстую манету і гэтак жа ўпарта патрабуючы ад нас правядзення ў жыццё літары Канстытуцыі незалежных рэспублік».

Вось так, наіўныя прастакі нацыянал-камуністы! Вы ўсур'ёз паверылі ў суверэннасць і незалежнасць сваёй рэспублікі? Ну, што вы, што вы! Гэта ўсяго патрэбная нам да пары да часу палітычная гульня.

Мы, беларускія навукоўцы і літаратары, здаецца, трохі перабольшваем поспехі нацыянальнага адраджэння Беларусі ў 20-я гады. Поспехі, вядома, былі — але на поўную сілу разгарнуцца тагачасным патрыётам Бацькаўшчыны не далі. Не далі ўсё тыя ж апосталы «западно-русизма», толькі ўжо з бальшавіцкімі мандатамі ў кішэнях. З 1923 па 1930 год не было, бадай, ніводнага з'езда КП(б)Б, ніводнага пленума ЦК КП(б)Б, ніводнай сесіі ці прэзідыума ЦВК БССР, на якіх бы ні ставілася пытанне аб небяспечным для савецкай улады і савецкай краіны беларускім нацыянал-дэмакратызме і аб неабходнасці бязлітасна з ім змагацца. Напачатку гэта гучала стрымана; а затым усё больш гучна і злавесна, а нарэшце ад пагроз і лаянкі пагромшчыкі суверэннай Беларусі, беларускай мовы і культуры, нацыянальнай асветы і навукі перайшлі да палітычных рэпрэсій, да фізічнай расправы з «нацдэмамі», г.зн. з самымі перакананымі, самымі сумленнымі, самымі шчырымі ў працы патрыётамі Бацькаўшчыны.

На мяжы 20-х і 30-х гадоў працэс беларусізацыі ў Беларусі быў гвалтоўна спынены — на ім быў канчаткова пастаўлены крыж. Пачаўся працэс адваротны — працэс паступовай ліквідацыі таго, што было зроблена, што было заваявана. Працэс суцэльнай франтальнай русіфікацыі ўсяго грамадска-палітычнага, духоўнага і культурнага жыцця беларускага народа. Нацыянальна-беларускае ў Беларусі троху-патроху ператварылася ў музейную экзотыку — для паказу замежным дэлегацыям, для ідэалагічнай рэкламы. Напрыклад, у вялікім канцэрце выконваліся — адна беларуская народная песня і адзін беларускі народны танец, — у якасці этнаграфічнага даважку, каб заўсёды можна было сказаць: а вось, калі ласка! Вось вам і наша беларускае!..

Колькі гадоў назад палітычная і ідэалагічная сітуацыя на Беларусі пачала істотна мяняцца. Наступіў новы этап беларускага нацыянальнага Адраджэння. Паспрыяла гэтаму ў першую чаргу абвяшчэнне Беларусі незалежнай дзяржавай і прызнанне яе ў гэтай якасці сусветнай супольнасцю краін і народаў. Ад музейнай экзотыкі, да якое была зведзена ў нас беларушчына, зроблены першыя крокі да рэальнага і паўнакроўнага нацыянальнага жыцця. Падкрэсліваю, толькі першыя крокі. Але і яны страшэнна напалохалі сучасных «ворагаў беларушчыны», сучасных апалагетаў тэорыі «западно-русизма». Сёння «западно-русизм» зноў з нябывалым нахабствам падняў галаву. Чаму сёння? Таму што яшчэ нядаўна ў гэтым не было патрэбы. І так усё было зразумела: у СССР гіганцкімі тэмпамі ідзе зліццё нацый, нацыянальных моў і культур, ідзе ўтварэнне новай гістарычнай супольнасці — безаблічнага савецкага народа. Беларусь дзякуючы «бацькам нацыі» дабілася ў гэтым накірунку асабліва вялікіх поспехаў, — пайшла, можна сказаць, наперадзе прагрэсу. Дзевяноста першы год акунуў актывістаў гэтага прагрэсу ў сцюдзёную ваду і прымусіў іх на нейкі час палічыцца з рэальнасцю. Цяпер яны апомніліся, спахапіліся і прыкладаюць усе намаганні, каб узяць рэванш, каб павярнуць ход гісторыі назад, у мінулае.

Шаноўныя калегі, сябры свабоднай і незалежнай Рэспублікі Беларусь! Як вы бачыце і разумееце, мы сабраліся ў вельмі складаны і нялёгкі для Беларусі, для нацыянальнай свядомай беларускай інтэлігенцыі, для ўсіх шчырых патрыётаў беларушчыны час. Нялёгкі — таму што дарога да свабоды і незалежнасці лёгкай не бывае. Хацеў бы, каб ніхто з вас, нашых сяброў-гасцей, не ўсумніўся, што цяжкасці нас не спалохаюць і не стрымаюць. Тым больш, калі мы будзем ведаць, што побач з намі — вы.

# ВЕРУЕМ

*На Беларусі — адраджэнне хрысціянскай веры. Большае вернікаў, будуюцца храмы...*

*Адраджэнне веры.. Як бы хацелася, каб супала яно, злілося з адраджэннем Беларусі! І каб былі гэтыя велічныя з'явы па сутнасці сваёй шчырыя і сапраўды вечныя...*

*Прыхільнікі розных канфесій, славячы імя Хрыстова, як мы верым? Ці не нагадвае наша вера энтузіязм іерусалімскага натоўпу, які вітаў уваход Госпада ў Іерусалім. Натхнёна размахвалі абнадзеяныя людзі пальмавымі галінкамі, кідалі пад ногі асляняці, на якім ехаў Ісус, сваю адзежу... «Бласлаўлён цар, што ідзе ў імя Гасподняе! Мір на небе і слава на вышыні!» — віталі яны Месію, спадзеючыся, што вось ён, новы цар Юдэі, які падыме іх на паўстанне супраць ненавісных рымлянаў, усталюе тут, на зямлі, багатае царства... І будзе ратаваць, і лячыць, і кіраваць... А апосталы ўжо падзялялі між сабою месцы ля царскага трона...*

*Якім самотным павінен быў пачувацца Хрыстос сярод радаснага натоўпу! Бо не царскі трон чакаў Месію, але ганебны крыж, пакутлівая смерць... І ці не ў выніку вялікага свайго расчаравання (як жа, не даў ім таго, чаго чакалі, не падтрымаў іхнюю палітычную партыю!) праз кароткі час гарлалі тыя ж ерусалімцы «Распні яго!»?*

*Адраджэнне веры... Для нашай шматканфесійнай краіны гэта вялікая надзея і — вялікія праблемы.* ***Успомнім жа з Евангелля — калі надзяліў Ісус апосталаў здольнасцю аздараўляць і ўладаю над дэманамі, сказаў Яму апостал Іаан: «Настаўнік! Мы бачылі чалавека, іменем тваім выганяючага дэманаў, і забаранілі яму, бо ён не ходзіць з намі». І сказаў Ісус: «Не забараняйце, бо хто не процi вас, той за вас». (Ев. ад Лукі, 9. 49—50)***

*І верыцца, што святары і вернікі ўсіх канфесій пагодзяцца з адным — калі Бог стварыў свет ва ўсёй яго цудоўнай шматколернасці, вялікі грэх збядняць гэты свет, разбураць Божую задуму. Знішчаючы, напрыклад, нейкую разнавіднасць кветак або птушак. І непамерна большы грэх — знішчыць, даць знікнуць мове, нацыянальнай адметнасці народа — ён жа таксама быў задуманы і створаны дзеля сваёй, асаблівай мэты, дзеля свайго Шляху...*

*Сёння ў новай рубрыцы — два матэрыялы пра малітву, якая ёсць духоўны хлеб веруючага чалавека. Таму — на заканчэнне прадмовы — і пачатак размовы — словы Госпада пра малітву:*

***«І калі молішся, не будзь, як крывадушнікі, якія любяць у школах і на вуглах вуліц прастойваць молячыся, каб паказацца перад людзьмі...***

***Ты ж, калі молішся, увайдзі ў камору тваю і, зачыніўшыся, памаліся Айцу твайму, які Сам утайне, і Айцец твой, відзячы ўтоенае, узнагародзіць цябе яўна.***

***А молячыся, не гавары многа, як пагане, бо яны думаюць, што ў мнагаслоўі сваім будуць пачуты». (Ев. ад Маце. 6.5—7)***

*Людміла **РУБЛЕЎСКАЯ**.*

## Я чытаю Біблію...

Я чытаю Біблію... Наўрадці знойдзецца сёння хоць адзін адукаваны чалавек, які б ніколі не чытаў яе... Хто — з цікавасці, хто — у пошуках патрэбных цытатаў, хто — з надзеяй знайсці там адказы на свае балючыя пытанні... І кожны знаходзіць — у залежнасці ад патрабаванняў... Як толькі ні трактавалі Святое Пісанне! Адны вучоныя, накшталт Джона Фрэйзера, успрымалі яго як фальклорную крыніцу. Другія, як Эрнст Рэнан, лічылі яго гістарычным помнікам — падобна старажытнаму летапісу... І цяпер не ўсе думаюць, беручы ў рукі пульхны томік, пра Боганатхнёнасць гэтай Кнігі, пра тое, што яна — Слова Божае... А ў нас ёсць два пачаткі — Веды і Вера. Ёсць розум — ёсць сэрца. Як мы чытаем Біблію? Ці вачыма Веры? Ці паваражаючы розумам? Успомнім, як чытаў Святое Пісанне Юрась Братчык, герой рамана Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»: «І не было яснасці ў душы яго, і таму ён, шукаючы яе, узяў пудовы, пераплецены ў скуру том... І чым далей ён чытаў, тым менш разумеў, аж пакуль не ўпаў у адчай... адчуваў, што ад непасільных разумовых намаганняў у яго дыбарам устаюць валасы. І яшчэ ён зразумеў, што, калі ён не кіне гэтай справы, ён сапраўды і давеку папсуецца ў розуме або неадкладна зап'е».

А між тым, усе святыя айцы раяць часцей чытаць Евангелле. Можа быць, маем справу з натуральнай з'явай — нельга даваць дзіцяці хлеб, пакуль яно не займела зубы, не навучылася жаваць і глытаць? Пакуль не адкрыюцца вочы Веры?

Набыццё Веры вымагае ўзлёту над самім сабою. Гэта не чарговая жыццёвая прыступка. Гэта новая якасць душы. Але — маючы ці не маючы яе — мы чытаем Біблію. І знаходзім у Ёй тое, што патрэбнае нам, — цытату, надзею, параду, супакой... Мітрапаліт Веніямін пісаў пра чытанне Евангелля: «І тут розуму нашаму цалкам прыстойна і нават абавязкова шукаць верагоднасці самымі натуральнымі сродкамі: высновамі, псіхалагічнымі параўнаннямі, адчуваннем ісціны... У крайнім выпадку, чытайце хаця б пры сумненнях, пры паслабленні веры, пры журбе: і знойдзеце і ісціну, і суцяшэнне».

Святыя айцы раяць чытаць Евангелле «проста», не задаючыся нейкімі спецыяльнымі мэтамі нешта знайсці там. Але ёсць і такі момант: паколькі Біблія — Слова Божае, жывое — яно адкрываецца не ўсім, як не ўспрымалі фарысеі і габрэі словы Самога Хрыста, але тыя ж словы аднаўлялі для новага, духоўнага жыцця мытараў, блудніцаў... А яшчэ гаворыцца, што верыць лёгка, а вось жыць па веры цяжка...

А пакуль — я чытаю Біблію. І знаходжу там тое, што **патрэбна мне і прадназначана**, можа быць, менавіта мне... І няхай дапаможа мне Бог...

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.**

## Што для мяне малітва?

Як чалавек моліцца, што значыць для яго малітва? — гэтая вельмі асабістая справа не надаецца дзеля абмеркавання. Да таго ж, чалавек, молячыся, не думае, як ён моліцца, дзеля чаго...

Калісь часцей я маліўся толькі ад свайго імя, пасля — ад імя іншых, аж урэшце стаў актыўна ўдзельнічаць у супольнай малітве ў бажніцы. Так ад таго часу, як зразумеў, што Божая воля — каб людзі звярталіся да Яго не паасобку, а грамадой.

Найболей люблю, каб у часе імшы выразна быў чутны голас святара, тады я стараюся лучыцца з ягонай малітвай падчас асноўных частак богаслужэння. Але далучаю і свае ўласныя словы, асабліва тады, калі святар пераходзіць з народнай гутарковай мовы да мовы, на якой вядзецца служба. Я па-лаціне маліцца не ўмею, бо **маліцца можна толькі на роднай мове**. І нават тады, калі тую другую, чужую мову найлепш ведаеш. Чаму? Бо, молячыся, не толькі трэба гаварыць, але таксама думаць ды слухаць — на чужой мове, што ўжо немагчыма.

Як я малюся і якімі словамі? Найчасцей коратка. Часам словамі з Святога пісання, але часцей уласнымі. Стандартных пацераў не люблю (хаця і ўласныя словы з цягам часу складваюцца ў пэўныя схемы), гавару іх толькі з абавязку.

Звычайна малюся ўкленчыўшы, але таксама й ідучы, лежачы (ноччу; калі хворы), а ў сціжме людзей таксама і седзячы. Раніцой прашу толькі коратка: «Божа, блаславі маю працу, мыслі і ўчынкі, каб я мог сёння як мага больш добрага зрабіць». Увечары гавару малітву... і звычайна перапрашаю Бога за свае грахі, аддаю пад боскую апеку ўсю сваю сям'ю, прашу: «Аб'яві мне» альбо «аб'яві нам» Тваю, Пане, волю, прасвятлі мяне, каб яе зразумеў, каб яе цалкам выканаў». У залежнасці ад патрэбы (але і ад ступені змучанасці і ад колькасці вольнага часу) дадаю часта да малітвы актуальныя просьбы.

Апроч таго, малюся заўсёды ў навальніцу ці пры гуку пажарнай машыны, каб бура і пажар нікому нічога злога не ўчынілі. Часта таксама малюся за напатканых людзей — за калекаў, хворых (калі, скажам, едзе хуткая дапамога), за дзяцей, за нябожчыкаў (калі еду ці іду паўз могілкі)... Я прашу шчасця для ўсіх, збавення і святасці...

Што для мяне малітва? Станаўленнем да Божай прысутнасці і раскрыццём душы на ўздзеянне шчодрасці, але перш за ўсё стараннем адгадаць Божую волю ў адносінах да мяне і знаходжаннем вехаў далейшага стаўлення. Выяўленнем удзячнасці Богу за дадзеную шчодрасць, за дараванне маёй віны і за дапамогу падняцца... Крыніцай моцы і адвагі пры прыняцці рашэння і пры поглядзе ў будучыню. Крыніцай спакою і даверу. Прытулкам у хвіліну адзіноты і неразумення з боку блізкіх. Набліжэннем да ўсіх людзей...

**Мужчына, 35 гадоў, адукацыя вышэйшая, жыве ў невялікім горадзе. Перадрук з кнігі «Безімянныя гавораць пра малітву».**

***Ці ж не сам Бог даў нам нашу мову, каб мы з ім размаўлялі?!***

## Кардынал распусьціў камісію

Пасьля прыняцьця ў 1991 годзе Закону аб мовах пачала паварочвацца да беларускай мовы і каталіцкая царква. Была створаная камісія па перакладзе літургічных і эвангельскіх тэкстаў. Напачатку ў склад камісіі ўваходзілі людзі, якія не зьяўляліся прафэсіяналамі ў гэтай справе. Гэта прывяло да памылак, недакладнасьцяў у перакладах. Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк пачаў уводзіць у камісію прафэсіяналаў. У камісіі працавалі мовазнаўцы, а таксама ксяндзы са Слоніма, Наваградка, Гародні і Менску, якія добра ведаюць беларускую і польскую мовы. Дзякуючы працы камісіі загучала беларускае слова ў касьцёлах, мільёны людзей слухалі штотыдзень слова Божае па радыё.

І вось адбыўся рэфэрэндум. На другі дзень пасьля яго Уладзіславу Завальнюку зь Пінску патэлефанаваў Казімер Сьвёнтак і паведаміў, што камісія сваю працу скончыла, ён яе распусьціў, і што пераклады больш непатрэбныя.

Вельмі шкада, што каталіцкая царква на Беларусі першай адрэагавала на вынікі рэфэрэндуму. Цяпер сапраўды атрымліваецца роўны статус: беларуская мова ніколі не гучала ў беларускіх праваслаўных храмах, ня будзе гучаць і ў каталіцкіх.

**А.САКАЛОЎСКАЯ, загадчык катэдры беларускай мовы і літаратуры Менскага лінгвістычнага ўнівэрсітэту,**
**А.ТРАЯНОЎСКІ, паэт-перакладчык і іншыя члены Літургічнай камісіі.**

*(Перадрукавана з «Свабоды», № 21, ад 26 траўня г.г.).*

***АЛЕ!***

## Памяняйце 5-ю графу!

Хоць круць-верць, хоць верцькруць, а вось выпаў мне лёс беларусам пачувацца. Калі шчыра: лепей бы неяк інакш. Бо на тое, што ў мяне ёсць такая-сякая адукацыя ў спалучэнні з беларускай душой, той-сёй і на маёй Бацькаўшчыне, і за яе межамі глядзяць так, як некалі Ульянаў-Ленін на буржуазію.

І ўжо так гэтыя «тыя-сія» навыперадкі завіхаюцца — даводзяць «тутэйшым», нам, значыцца, што мы пыл-распыл і ўсялякая там малеча перад манументальнай веліччу суседніх нацый. А якую афіцыёзную газету ні разгарні, за рэдкім выключэннем, аўтары, як сабакі цапныя, аблайваюць і мову беларускую, і герб «Пагоня», і сцяг бел-чырвона-белы, і ўсю нашу гісторыю... Проста хоць ты ў пашпартны стол бяжы і заяву пішы: маўляў, не хачу быць носьбітам нікуды не вартай і «так званай» беларускай нацыі, а запішыце мне ў адпаведную графу, што я расіец, украінец... або чукча. Гатовы стрываць анекдоты і пра апошняга, як і пра Васіля Іванавіча ці Хаіма.

Ды што газеты! Газеты нюх па ветру трымаюць, каб дагадзіць высокім уладам. А вось нядаўна (грэшны са спазненнем) я каляндар праваслаўны купіў. Выпусціла нейкае ТОО «Авенир-Дизайн». Дык вось, там я натыкаўся такога, што ажно ніякавата робіцца, што меў не проста нікуды не вартых продкаў, а нейкіх пачвар.

І, відаць, каб я адмольваў грахі прадзедаў, паразы їхнія ў войнах з Масковіяй, напрыклад, мне раяць адзначаць, як гаворыцца, на ўсю катушку. Асабліва ў даты, каторыя тычацца няўдалых стратэгічных крокаў нашых прадзедаў, калі тыя разам з Ілжэдзімітрыямі на Маскву ў пачатку XVII стагоддзя хадзілі. Сто разоў прызнаю: магчыма, нешта ў гэтых справах і кепска прадзеды мае зрабілі. Хай гісторыкі ў тым разбіраюцца. Але ж і маю душу беларускую трасуць, аплёўваюць. На маёй Бацькаўшчыне! З імем Бога на вуснах.

Дык вось у праваслаўным календары на 1995 год мне нагадваюць:

**26 студзеня** памінаць прападобнага Ірынарха, затворніка Растоўскага, які перад нашэсцем палякаў (пад «палякамі», вядома, не маюцца на ўвазе і беларусы, і ўкраінцы, і жмудзіны) натхняў цара Васіля (1610 г.) «стаяць цвёрда», а Пажарскага блаславіў на подзвігі медным крыжам;

**28 студзеня** адзначыць 385-годдзе зняцця «нашай» асады з Троіца-Сергіеўскай Лаўры;

**2 сакавіка** ўспомніць добрым словам патрыярха Гершагена, які ў гэты дзень прыняў пакутніцкую смерць ад «палякаў» у Чудовым манастыры за тое, што не спыніў войскаў Мініна і Пажарскага ў іх наступе на захопнікаў.

Пад рознымі соусамі мне нагадваюць пра маю мізэрнасць праз нікчэмнасць сярэдневечных ваяраў з Беларусі ў той самай вайне **22 чэрвеня, 20 ліпеня, 7 лістапада і 13 снежня**.

А вось **20 чэрвеня, 22 чэрвеня і 4 лістапада** каляндар яшчэ згадвае пра тое, як любіў вялікую Расію палкаводзец Сувораў. Як ён верыў у Бога, як гераічна «пронзил» Альпы, як на сваёй вотчыне ў сяле Сараеве Нярэхцкага уезда Кастрамской губерні збудаваў царкву і ў 1795 годзе яе асвяціў пасля таго, як паліў беларускія вёскі і пабіў мужыкоў з атрадаў Тадэвуша Касцюшкі.

Чамусьці не знайшоў я ў тым календары ні слова пра беларускіх святых — Кірылу Тураўскага і Ефрасінню Полацкую. Затое пра 155-годдзе ўз'яднання уніятаў з Праваслаўнай Царквою ў заходніх абласцях Расійскай імперыі ёсць. Хаця мы добра ведаем, якое гэта было ўз'яднанне, якога гора маім продкам каштавала.

І дужа мне цікава: чаму ў календары праваслаўным, якім гандлююць у беларускіх, а магчыма, і ўкраінскіх храмах, так услаўляецца менавіта расійская імперская гісторыя? А наша, святыя духоўныя айцы, дзе?А як з тым пастулатам Бібліі, што для хрысціянства ўвогуле не існуе падзелу на эліна і іудзея?

Вось і падштурхоўваюць нас, грэшных беларусаў, такія вось памяткі моцна пра аўтакефалію, незалежную, Сваю царкву падумаць.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

# Кола сям'і

## «Залатая мудрасць Піфагора...»

*Таямнічая постаць гэтага старажытнагрэцкага філосафа ва ўсе часы выклікала пільную ўвагу. Яшчэ ў часы Рымскай імперыі своеасаблівым «бестселерам» з'яўляліся «Залатыя вершы Піфагора». І пазней, у эпоху Асветніцтва, з'яўляюцца новыя і новыя рукапісы, прыпісваемыя Піфагору, заснаваныя на яго ідэях. Прапануем чытачам пазнаёміцца з вытрымкамі з кнігі «Піфагоравы законы і маральныя правілы», выдадзенай у 1808 годзе ў Санкт-Пецярбургу, якія датычаць тэмы нашай рубрыкі.*

Разумная жонка! Калі жадаеш, каб муж вольны час праводзіў ля цябе, дык старайся, каб ён ні ў якім іншым месцы не знаходзіў столькі прыемнасці, задавальнення, сціпласці і пяшчотнасці.

Калі хочаш перажыць самога сябе і ўшаноўвацца нашчадкамі, пакінь пасля сябе дабрадзейную сям'ю і добрую кнігу.

Не рабі вымоў тваёй жонцы пры тваіх дзецях.

Той, хто не выконвае абавязкаў бацькі сям'і, не можа быць ні заканадаўцам, ні кіраўніком горада.

Не выбірай сабе за сябра таго, хто жыве не ў згодзе са сваёю жонкай.

Кратонцы! Не давярайце кіраўніцтва рэспублікай таму, каму жонка яго і дзеці не аддаюць належнае павагі.

Кратонкі! Кахайце ў жыцці толькі адзін раз: гэта ёсць закон Прыроды і Парада розуму.

Перш чым браць шлюб, павінен ты ведаць, што ў Прыродзе ўсё ўвесь час змяняецца: жанчына сённяшняя не ёсць жанчына ўчарашняя.

Не ганіся за шчасцем: яно заўжды ў табе самім.

Не давярайся жонцы, якая шмат смяецца.

Не разважай з дзецьмі, з жанчынамі і з народам.

Не шукай вялікіх ведаў: з усіх ведаў навука маральнасці, можа быць, ёсць самая патрэбная, але ёй не вучацца.

### Выслоўі

— Сапраўдная любоў вельмі часта прыходзіць разам з з'яўленнем на свет нашага першага ўнука.

— Дзіця гэтаксама цяжка ўтрымаць у руках, як і мокрае мыла. Калі трымаеш надта моцна, то выслізгвае з рук, тое ж самае адбываецца, калі трымаеш мыла далікатна.

— Чаму дзеці такія добрыя і інтэлігентныя, а дарослыя — наадварот? Відаць, з таго, што хадзілі ў школу.

— Знаю такіх мужоў, якія думаюць пра сябе, што іх асобай зачараваны ўвесь свет, але тым часам людзі наогул не ведаюць, што яны існуюць на свеце.

Спытайце ў кожнага, дзе нараджаецца першае ў жыцці чалавека слова? Адказы будуць амаль аднолькавыя: вядома, у сям'і. Пачутае не раз і не дзесяць ад маці, бацькі, бабулі, яно аднойчы, выспеўшы ў глыбінях мозгу, кране вусны ўчарашняга немаўляці, каб імгненна адгукнуцца рэхам радасці ў блізкіх родзічаў (ці тых, хто па нейкіх трагічных прычынах замяняе іх, набываючы такім чынам роднаснасць па духу) — нашчадак загаварыў! І так пакоіцца жыццё, як месяц за сонцам, як лета за вясною, а зіма за восенню — у развіцці, працы, спадзяваннях, сустрэчах і расстаннях, бедах і радасцях, адной з якіх, і ці найвялікшых, будзе суіснаванне і суразмова з блізкімі — ажно да непазбежнага скону.

Але ж і скон гэты ў атачэнні радні стане зусім іншым, чымся ў адзіноце. Адзінота — гэта незваротнасць і таму смяротная, чорная туга, у той час як улонне сям'і пакідае магчымаю апошнюю радасць, што жыццё прайшло не дарэмна: ты быў разам з блізкімі, падтрымліваў іх, чым мог, і вось пасля цябе застаецца працяг — маладое, новае пакаленне. Таму і параўноўваецца сям'я (як найменшая часцінка роду, а за ім — нацыі) з жыццёвым колам, кругаваротам прыроды, калі за сконам ідуць непазбежна нараджэнне і росквіт навіны, таму і адчувае сябе кожная істота ў коле сям'і несмяротнай, бо ёй ёсць працяг — з глыбіні мінулага ў глыбіню будучага.

Зноў жа: сям'я — гэта бясконцасць жыцця, але разам і той унікальны асяродак, дзе вырастае душэўна паўнацэнны чалавек. Тут і толькі тут закладаецца найбольш трывалая аснова выхавання чалавечнасці, годнасці, а ўрэшце душэўнай раўнавагі, здольнасці для нармальнага развіцця. Заўважана: якая сям'я, такая і нацыя, а якая нацыя — такая і дзяржава. Так што чэзне сям'я — вырастае кволы (галоўнае — душою!) чалавек, а следам гібее і дзяржава. Некаму абавязкова трэба свядома і з радасцю ўсё сваё жыццё займацца тым, каб падняць і годна выхаваць дзяцей. Дзеля гэтага і патрэбна, як ужо сказана, сям'я (нават лепшыя дзіцячыя дамы імкнуцца стварыць менавіта ўмовы сямейнасці). А з ёю Дом. І ўвогуле неабходная для нармальнага жыцця ўласнасць. Кожны павінен клапаціцца, каб нешта пакінуць ва ўласнасць дзецям ці хаця б некаму з блізкіх, — тут спрацоўвае інстынкт. А гэтага нельга зрабіць, калі дзяржава, грамадства будзе арыентавацца на будоўлю адно вялізных інтэрнатаў, дзе кожнаму адводзіцца роля часовага пастаяльца. Бо калі ў чалавека няма свайго, як заўважылі мудрыя людзі, тады і ён нічога не хоча, акрамя забыцця — з дапамогаю ці нейкіх дзікіх уцех, ці алкаголю, ці наркотыкаў ды простага суіцыду, самагубства (і наркотыкі ж з п'янствам — самагубства, толькі расцягнутае ў часе, брудпае, смярдзючае).

У чалавека павінна быць адчуванне гордасці: ён нешта здолеў зрабіць для сям'і — сваёй, малой, і вялікай, якая зацікаўлена ў падтрымцы малой, — нацыі. Пабудаваў дом, абрабіў участак зямлі, некага навучыў рамяству, нешта на заробленыя грошы набыў каштоўнае, важнае для сябе і сям'і, такое, што пойдзе потым у спадчыну, на падтрымку (дзеля выжывання) — нашчадкам, наступнаму пакаленню. Існаванне адным днём, зноў жа заўважана не намі, вядзе да маральнай дэградацыі, выраджэння чалавека і сям'і. Вось чаму, дарэчы, вельмі важна прызнаваць і ўсяляк абараняць законам некрымінальным шляхам набытую асабістую ўласнасць, разумна спалучаючы яе з агульнанацыянальнай.

Словам, прыкінуўшы свае магчымасці і ўлічваючы сабраныя шляхам апытання чытакіяпажаданні, мы вырашылі адкрыць сямейны раздзел, які ў будучым плануем пашырыць — зноў жа з дапамогаю, пры падтрымцы нашых чытачоў. Мы наладжваем трывалыя сувязі з адпаведнымі навуковымі ўстановамі, дамаўляемся з аўтарамі, спецыялістамі. Задавайце, шаноўныя чытачы, свае пытанні, уносьце прапановы, дзяліцеся меркаваннямі і назіраннямі — усё пойдзе ў агульную справу.

Мы будзем арыентавацца, вядома ж, на беларускую сям'ю, аднак абавязкова будзем рабіць параўнанні з сем'ямі іншых народаў, асабліва нам блізкімі па этнакультурным развіцці — еўрапейскімі, уключаючы, безумоўна, ЗША, Канаду, Аўстралію, дзе стала пасяліліся нашы суродзічы, захоўваючы адметныя рысы беларусаў.

Пра сям'ю, чалавечыя ўзаемаадносіны напісана, напрацавана нямала каштоўных матэрыялаў, і мы ў свой час плануем многае скарыстаць. А напачатку згадаем асобу зусім тут, здавалася б, нечаканую — знакамітага аўтара дэтэктыўных раманаў Жоржа Сіменона. Напрыканцы жыцця, адправіўшы свайго легендарнага літаратурнага персанажа камісара крымінальнай паліцыі Мегрэ на пенсію, пісьменнік надыктаваў некалькі тамоў успамінаў, дзе паспрабаваў прааналізаваць уласнае жыццё і пачуцці. Для беларускага чытача гэта ў асноўным незнаёмы Жорж Сіменон. Але ён усё той жа — абаронца простага чалавека. І — абаронца сям'і.

У новым раздзеле прапануем некалькі фрагментаў з гэтых успамінаў, кожны з якіх, па сутнасці, завершанае міні-эсэ.

**Рэдактар.**

*Усе шчаслівыя сем'і падобныя?*

## Споведзь

Ці існуе рэцэпт на шчасце? Кожны чалавек мае свой уласны погляд на асабістае жыццё. Але кожны хоча быць шчаслівым, хоча быць каханым.

Ці кахаюць мяне? Колькі дзён таму я вярнулася з двухтыднёвай камандзіроўкі. Ці чакалі мяне?.. Я ўбачыла чыстую кватэру, кветкі на стале, памытую бялізну ў ваннай, спецыяльна спечаны пірог... Восем пар вачэй, лічачы сабачыя, блішчалі радасцю. Мне здаецца, што ўсё гэта адпавядае слову «каханая». І мне сапраўды цяжка сказаць, што ў гэтым слове больш значыць: мужавы рукі, што абдымалі мяне, ці бялізна, што сушылася (муж яе, напэўна, мыў ноччу)?

Так, я шчаслівая. У маім паняцці людскога шчасця каханне займае самае важнае месца, але не з'яўляецца адзіным яго зместам. Што ж апроч яго? Здароўе? Службовыя амбіцыі? Добрыя сябры? Мае дзве дачкі — дванаццаці- і сямігадовая, якімі я вельмі задаволеная? Але я хацела яшчэ мець і сына. На маёй працы — не вельмі добрыя калегі. Я дамаглася спаўнення маіх навуковых планаў — але коштам бяссонных начэй і «надта самастойных» дачок. У нас трохпакаёвая кватэра — але ў далёкім мікрараёне. Маю шчырых і адданых сяброў — але не хапае часу на сустрэчы з імі... І калі я выкрэслю з сваёй мадэлі шчасця: сына, машыну, замежныя камандзіроўкі, бюджэтную стабільнасць, жаданне бачыць захапленне ў вачах маіх калег ды яшчэ некалькі дробязяў, — то можна сказаць, што мая мадэль шчасця зрэалізавана.

Дамовіліся: я шчаслівая і каханая. Можа варта паразважаць, чаму мяне кахаюць? Не веру ў тое, што каханне — дар ад Бога. Лічу, што каханне — гэта дасягненне, якое, як і ўсе іншыя жыццёвыя поспехі, патрабуе паўсядзённай і грунтоўнай працы. Трэба навучыцца кахаць і навучыцца быць каханаю. Кахаць за тое, што ты сабой уяўляеш, а не за тое, што ты існуеш. Нікому мяне, закаханай у мужа, пыталіся, ці магу я сказаць, што кахаю мужа сёння больш, чым учора, але менш, чым заўтра, — бо так, паводле ўяўлення некаторых маіх сябровак, павінна гаварыць жанчына, якая кахае мужа.

Кожны ведае: прасцей быць закаханым у высокага стройнага хлопца, чым у саракагадовага мужчыну з змучанымі вачыма, катораму ўдалося ўжо патаўсцець. І, відаць, таксама прыемней кахаць маладую, прыгожую, вясёлую і элегантную дзяўчыну, чым змучаную, трохі абыякавую да свайго выгляду і часта незадаволеную жыццём жанчыну — жонку. Для кожнага павінна быць зразумелым, што кахаць і быць каханым — нялёгка.

На чым жа заснавана маё шчаслівае сужонства? Апроч несумненна ўдалага інтымнага боку жыцця, — на вельмі старасвецкіх і нямодных прынцыпах. Гэта — пачуццё гумару, пашана, ветлівасць, захапленне, лаяльнасць, салідарнасць, давер. Мяркую, што мой муж — чалавек, варты пашаны. Лічу так таму, бо ніколі не баюся, што за яго ўчынкі ці словы я буду чырванець. Імкнуся, каб быць шанаванай ім, гэта значыць, мушу паступаць так, каб ён ніколі не чырванеў за мяне. Імкнуся, каб муж быў дзеля мяне ветлівым, а таму стараюся быць ветлівай і да яго, нават тады, калі ён нечым мяне нервуе.

Лозунг нашага сужыцця — лаяльнасць і салідарнасць. Справы, што тычацца нас, гэта — справы выключна нашыя. Нікому не дазваляем умешвацца ў нашыя сямейныя адносіны, незалежна ад таго, ці той мае рацыю, ці не мае. Датычыць гэта і нашых бацькоў. Яшчэ адно «жалезнае» правіла: я рашуча пазбылася нават жадання паскардзіцца каму-небудзь блізкаму — маці, бацьку, сяброўцы — на мужа, які якраз «скрабануў» за душу. Не трэба думаць, што я вельмі ідэальная. Я таксама, як і іншыя жанчыны, хацела б калі-нікалі пажаліцца і, вядома, не вытрымаю — жалюся на мужа мужу. Яго пачуццё гумару спрыяе вырашэнню канфлікта. Мой муж знае, што я ніколі нікому не скажу пра яго нічога дрэннага, што нікому не дазволю гаварыць пры мне пра яго дрэннае. Наша салідарнасць вымушае нас, каб мы ў канфліктах з блізкімі станавіліся на баку сужонца, нават тады, калі ён не мае рацыі. Вядома, гэта не перашкаджае нам пазней сказаць у вочы сужонцу, што ён быў неправы. Такое разуменне салідарнасці дае кожнаму з нас пачуццё сямейнай надзейнасці і бяспекі.

У паняцце салідарнасці і лаяльнасці мы ўключаем яшчэ прызнанне, што кожны з нас мае права ўвасабляць свае ўласныя імкненні і намеры. Як гэта разумець? Прыкладам, мой муж часта займаецца грамадскай працай. Паводле яго дэпутацкіх абавязкаў, ён мусіць клапаціцца пра адзінокіх людзей, «цяжкіх» падлеткаў, жонак і дзяцей п'яніцаў. А таму, што гэта яго дзейнасць не мае нічога агульнага з яго прафесійнай працай, то ён часта ходзіць змучаны, не выспаны і, вядома, мае мала часу для мяне і для дзяцей. Я не ганаруся гэтым сваім «станоўчым» героем. Усе знаёмыя кажуць, калі б мой муж хоць палавіну часу і энергіі, што аддае грамадскай працы, уклаў у сваю прафесійную кар'еру, у нас даўно была б і ўласная машына, і грошы на адпачынак за мяжой. І калі хтосьці мяркуе: я не бунтавалася супраць такога стану, што муж шмат працуе, а мала зарабляе, той памыляецца. Я не ідэал. І калі я не выяўляла свайго бунту словамі, то толькі таму, што не знаходзіла ні аднаго сапраўднага аргумента дзеля папрокаў, а да таго ж добра разумела, што пасля такіх папрокаў я падалася б яму прымітыўнай, дурной, прагнай і эгаістычнай. Гэтага сабе я дазволіць не магу.

**Н.Ч.**

***1 ЧЭРВЕНЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ***

# «Палітыка сталічнага гарсавета – ратаванне падрастаючага пакалення ад фізічнага і духоўнага Чарнобыля...»

***На пытанні журналіста Алеся МІКАЛАЙЧАНКІ адказвае старшыня Камісіі па выхаванні і адукацыі Менскага гарсавета, заслужаны настаўнік Беларусі Вольга КУЗЬМІЧ, якую ў свой час кандыдатам у народныя дэпутаты вылучыла рада ТБМ Фрунзенскага раёна сталіцы.***



**— Шаноўная Вольга Аляксандраўна, дазвольце Вас ад імя рэдакцыі «Нашага слова» як маці, як бабулю павіншаваць з надыходзячым Міжнародным днём абароны дзяцей і пажадаць Вам добрага здароўя і яшчэ большых, чым сягоння ёсць, поспехаў на палітычнай ды педагагічнай нівах.**

— Вялікі дзякуй. Але на самай справе гэта дата не святочная, бо прымушае задумацца: а што ты зрабіла са сваімі аднадумцамі па тым жа дэпутацкім корпусе сталічнага горада, па камісіі гарсавета, каб уратаваць падрастаючае пакаленне ад фізічнага і духоўнага Чарнобыля — гэтага «монстра з дзвюма галовамі», які закліканы знішчыць беларускі народ? Што зрабіла, каб у тваёй асабістай сям'і кожны чалавек быў шчаслівы?

**— Паколькі па ўсіх міжнародных стандартах права і маральнасці найпершая ўвага павінна звяртацца на канкрэтныя праблемы жыцця чалавека, асобы, я, з Вашага дазволу, хачу ў Вас запытацца: Вы — шчаслівая маці?**

— Шчаслівая. У мяне выдатны муж, з якім нарадзілі і выхавалі дваіх дзяцей — Антося і Вольгу. Вольга — старэйшая, замужам, мае сына Дар'яна. Антось — меншы, студэнт філфака БДУ, вывучае адначасова прадметы класічнай філалогіі і філалогіі беларускай.

**— Мова ў будзённым побыце сям'і — беларуская?**

— Як правіла — беларуская. Чаму так кажу? Таму, што, напрыклад, дачка, якая выйшла замуж за палітычнага эмігранта з Ірана, вельмі добрага і вельмі сур'ёзнага чалавека, са сваім мужам і ягоным братам, гэткім жа палітэмігрантам, кантактуе па-расійску. А вось мой унук Дар'янчык размаўляе і на беларускай, і на расійскай мовах і на мове фарсі. Бо з сынам бацька гаворыць толькі на сваёй мове.

**— З бабуляй, канешне, — па-беларуску...**

— Само сабой. Ды пры гэтым трохгадовы чалавечак захоўвае чыста беларускую пабудову фразы. Напрыклад: «А памятаеш, бабуля, ты была мяне пакрыўдзіла?...» Адкуль гэта ў яго? Мусіць, ужо ў генах моцна засела. Бо мой тата Аляксандр Антонавіч Карабань некалі выкладаў беларускую мову і родную літаратуру ў адной з ушацкіх школ на Віцебшчыне. Вучыў такіх знакамітых людзей, як народны артыст Генадзь Гарбук, народны паэт Рыгор Барадулін, паэтэса Еўдакія Лось. Ягоны брат, мой дзядзька Іван Антонавіч Карабань, «рускія» прадметы выкладаў на універсітэцкім філфаку ў Менску... Карацей, духоўнага Чарнобыля ў маёй вялікай сям'і няма шака: шануючы роднае слова, культуру і гісторыю, мы — паліглоты, ведаем усе разам добры тузін славянскіх і неславянскіх моў. А сын яшчэ грунтоўна вучыць латынь.

**— Прабачце, а як наконт Чарнобыля фізічнага?..**

— Тут трохі больш складаная сітуацыя. Мая Вольга, калі вучылася на трэцім курсе філфака, то нейкай восенню ад'язджала з Менска капаць бульбу ў адзін не дужа чысты раён Магілёўшчыны. Праз нейкі час пасля таго яна атрымала дзве пухліны... Між іншым, апошнім часам у нашу сям'ю ўвайшоў адзін юнак з Кармы, што на Гомельшчыне, Генадзь. Ён у Менску вучыцца ў тэхнікуме. Маці ды бацька хлопца памерлі ад радыяцыі. А ён сам таксама хапануў добрую дозу. Хворы, худы, ад ветру хістаецца. Мне Генадзь не родзіч, не знаёмы. Так, падышоў да мяне пасля аднаго мітынгу, падзяліўся бядой. Захацелася прыгрэць, пашкадаваць сірату. Памагаем усе яму, як можам, матэрыяльна. Яму як чарнобыльцу дамаглася аднапакаёвай кватэры. Карацей, не адмахнуліся ад чалавека...

**— У Вашай сям'і, Вольга Аляксандраўна, як бачна, зафіксаваўся стан міжэтнічнай дэмаграфіі Беларусі і гучыць у ёй мова прадстаўнікоў розных нацый. Але Вы, беларуска, пачуваецеся за гаспадыню. У грамадстве, у краіне нашай — наадварот: гаспадараць «саборы» ды іншыя таталітарысцкія асяродкі, а мы, беларусы, нібыта нацменшасць...**

— Так, падобнае адчуванне не пакідае мяне з таго часу, як на палітычным гарызонце з'явіліся дзяржаўнікі з антыбеларускімі ідэямі. Шкада таго, што, да слова, зрабіла наша камісія за пяць гадоў сваёй працы ў гарсавеце разам з гарвыканкамам, упраўленнем адукацыі сталіцы, раённымі аддзеламі адукацыі па сталяванні беларусізацыі ў школах, па вырашэнні балючых пытанняў сацыяльнай абароны бацькоў школьнікаў і дашкольнікаў...

**— Калі можна, трошку падрабязней асвятліце другое пытанне, якое тычыцца менавіта сацыяльнай абароны...**

— Скарыстоўваючы права заканадаўчай ініцыятывы, напрацаваны аўтарытэт, наша камісія «прабіла» праз гарсавет і Вярхоўны Савет ідэю стварэння пазабюджэтнага фонду ведамасных дашкольных установаў. Скажам, завод трапіў у крызіснае становішча, стаіць, не працуе, але дзякуючы згаданаму фонду заводскі садочак ці яслі дзейнічаюць — жывяцца назапашанымі сродкамі. Другая наша ініцыятыва: плата бацькоў да нядаўняга часу за ўтрыманне дзіцяці ў дашкольнай установе Менска не больш за 20 працэнтаў мінімальнай зарплаты, астатняе — браў на сябе гарадскі бюджэт. Уласна, бацькі аплачваюць, і то не поўнасцю (інфляцыя правакуе ваганні цэн), харчаванне дзетак. Па прапанове камісіі ў гарадскіх школах ды і ў школах краіны шырока пачалі ўкараняцца ў практыку бясплатныя сняданкі-экспрэсы (бутэрброды з сырам ці кілбасою, плюс гарбата або кампот). Менавіта гарадскія дэпутаты выходзілі ў Вярхоўны Савет з патрабаваннем, якое ўвайшло ў спецыяльны закон, аб заработнай плаце настаўнікам на ўзроўні зарплаты ІТР на прадпрыемствах прамысловасці. Яшчэ адна ідэя ўвасоблена ў рашэнне гарсавета — аб стварэнні адзінай гарадской чаргі бацькоў на атрыманне месца для дзіцяці ў садках або яслях. Цяпер маці або бацька можа ўладкаваць сваю малечу не абавязкова ў дашкольную ўстанову толькі свайго мікрараёна, раёна або прадпрыемства, а бліжэй да дома, каб зручней было вазіць дзіця туды-адтуль... Працы нашай камісіі падкінула яшчэ тая акалічнасць, што фактычна распалася «сумежная» камісія, якая займалася справамі аховы правоў мацярынства і дзяцінства. Мы — і тут хачу адзначыць актыўнасць дэпутаткі Галіны Вашчанкі, якая ўзначальвае Камітэт БНФ «Дзеці Чарнобыля Беларусі» — размяркоўвалі гуманітарную дапамогу сярод маламаёмных, дамагаліся першачарговага выдзялення кватэр шматдзетным сем'ям (дзякуй за дапамогу ў рашэнні падобных пытанняў нашым «вертыкальшчыкам», намеснікам старшыні гарвыканкама Уладзіміру Белахвоставу, Аляксандру Сасноўскаму), аднаўлялі запасы неабходнага рыштунку, інвентару і медыкаментаў у садках і яслях...

**— А цяпер — пра самае балючае для Вас. Пра тое, што можа стацца з праграмай беларусізацыі сталічных школ пасля таго, як вынікі вядомага рэферэндуму будуць увасоблены ў адпаведны артыкул Канстытуцыі, у адпаведныя законы?**

— Ведаеце, я проста шкадую, што Прэзідэнт паддаўся на ўгаворы шавіністаў і ўсчаў гэты рэферэндум. Зірніце, што робіцца ў сувязі з акцыяй усенароднага галасавання нават сярод прагрэсіўнага чынавенства. Адпаведныя дакументы аб немэтазгоднасці вынясення моўнага пытання на рэферэндум прыняло ўпраўленне адукацыі гарвыканкама. Чыноўнікі ў лепшым сэнсе гэтага слова стараліся выконваць Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Пры гэтым паводзілі сябе тут вельмі карэктна. Мяркуйце самі. За мінулыя пяць гадоў наша камісія, ГУНА, Мінадукацыі ў Менску надалі статус беларускіх 136 школам, а расійскіх — 95-ці. Пры гэтым беларускія школы поўнасцю перайшлі б на родную мову толькі праз гадоў 5—6. Сёння ж на ёй вучацца 60,9 працэнта першакласнікаў, 61,1 працэнта другакласнікаў, 49,5 працэнта трэцякласнікаў, 20 працэнтаў чацвёртакласнікаў. У сёмых і восьмых класах гэтыя лічбы складаюць адпаведна ўсяго 1,3 і 0,2 працэнта. Карацей, акрамя Беларускага гуманітарнага ліцэя, у нас няма ніводнай навучальнай установы поўнасцю з беларускай мовай выкладання прадметаў. Дык чым палітыка гарадскіх уладаў, нашай рэспубліканскай галіны пакрыўдзіла тых бацькоў, якія жадаюць, каб дзеці навучаліся расійскай мове? У горадзе, падкрэсліваю, 95 школ маюць статус расійскіх. Няўжо нашым братам па ўсходнеславянскім этнасе гэтага мала? Няўжо нам цяпер трэба пераглядаць статус школ беларускіх, ламаць школьныя праграмы? Мне здаецца, такая тэндэнцыя толькі сутыкне лбамі бацькоў, чые дзеці ўжо вучацца роднаму слову, пагадзіліся ў душы, каб дзеці былі беларусамі не толькі па крыві, але і па адукацыі, з расійскамоўнымі бацькамі. Вось што такое шавінізм. І шавінізму трэба цяпер актыўна супрацьстаяць — і настаўніцкай, і бацькоўскай грамадзе. Наша мова мае перспектыву, мае будучыню.

Пацікаўцеся ў дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя Уладзіміра Георгіевіча Коласа, і ён вам раскажа, колькі яго выпускнікоў вучыцца ў ВНУ Італіі, Польшчы, Нарвегіі, Кітая, іншых краін, ужо не гаворачы пра універсітэты ды інстытуты Беларусі. А гэта ўсё юнакі і дзяўчаты, у якіх беларушчына ўвайшла, як гаворыцца, у кроў...

**— І апошняе пытанне да Вас: будзеце вылучацца кандыдатам у гарадскія дэпутаты?**

— Буду. Зразумела, па сваёй 72-й Сердзіцкай акрузе. Бо хачу давесці справы нашай камісіі да лагічнага завяршэння.

**— Дык поспехаў Вам, Вольга Аляксандраўна.**

***ЗАХАПЛЕННІ — HOBBIES***

## Шахматы — з XI стагоддзя

Ці ведаеце, што нашыя прашчуры гулялі ў шахматы ўжо ў XI стагоддзі? У раскопах нашых старажытных гарадоў археолагі знайшлі прыгожа разьблёныя (нават і з слановай касці) ладдзі, вежы, конікі. Шмат аматараў гэтай гульні было ў Заходняй Беларусі, дзе кожны сталяр лічыў за гонар вытачыць з ясянёвай драўніны шахматныя фігуры. Але ў наш час аматараў гэтай цікавай гульні, на жаль, стала менш. Відаць, не толькі таму, што шахматаў не купіць. Няма і добрага прыкладу. Можна ўбачыць купкі мужчын, што ляскацяць чорнымі (чорны колер — цёмная, чорная энергія) косткамі даміно. І не кожнае з нашых дзетак мае такога бацьку, як, прыкладам, Анатоль Карпаў, які ў сваіх успамінах напісаў: «Калі ў маім жыцці з'явіліся шахматы? Мне здаецца, яны ў ім былі заўсёды. Шахматы былі адзінай часткай бацькавага свету, якая заўсёды была ў маім распараджэнні, заўсёды параджала ўяўленне, што вось ён зараз увойдзе, убачыць, што я гуляю з шахматнымі фігурамі, і ўсміхнецца так, як гэта ўмеў рабіць толькі ён, — ласкава, падбадзёрваючы, і ў той жа час з усведамленнем уласнай сілы і адказнасці, — усміхнецца і скажа: «Гуляй, гуляй, сынок! Гэта заўсёды добра».

Ці не зоймемся, бацькі-чытачы — заахвоцім сваіх дзяцей (ды і сяброў) да шахматаў — паспрабуем адарваць іх ад «чорнай скрынкі». Гэтая гульня павінна захапіць, сама перш, хлопчыкаў. Вось як піша Карпаў: «Спачатку шахматы былі для мяне проста забаўкамі... Але ўжо гады ў чатыры я пачаў ваяваць...

Перакананы, няма хлапчука, у доме якога ёсць камплект шахматаў і які не перажыў бы гэтага захаплення. Што і не дзіўна: шахматы — гэта школа вайны, школа іерархіі, гэта школа размеркавання, выканання і падмены роляў.

Як прыемна быць уладаром цэлага свету! Ствараць гэты свет паводле ягоных законаў, падначальвацца ім — і тут жа перарабляць яго вольнай, валадарнай рукой..

І адначасова я заўсёды памятаў, што, апроч вайны шахматнымі фігурамі, ёсць яшчэ і гульня на крацястай дошцы, якой захапляюцца дарослыя... Чаму мне, малечы, падабаецца наглядаць шахматную гульню? Я адчуваю гармонію гэтай гульні. Я адчуваю гармонію перасоўвання пешак і фігур, іх нябачнае і пакуль незразумелае мне, але цалкам рэальнае лучэнне... Мне падабаецца справядлівасць гэтай гульні. Яна нікому не дае перавагі. Зноў і зноў пераконваюся: на чыім баку даўжэй захоўваецца гармонія — той і перамагае. Вынік вызначае не колькасць пешак і фігур, а менавіта гармонія, якая і збірае ў фокус усю энергію ваяроў, што засталіся на полі...»

Ці ж дзівіцца, што нашы прашчуры з Ваўкавыска, Менска, Копысі, Полацка, якія часам малымі сіламі перамагалі шматлікага ворага, захапляліся гэтай гульнёй.

З.С.

## БУДЗЬМА Ў «СЯМЕЙНЫМ» ГУМОРЫ

### Гадзіннік-шчасце

Шчасце падобнае да гадзіннікаў: самыя простыя радзей псуюцца.

### Добрая жонка

Сябры хваляцца сваімі жонкамі.

— Мая жонка, — кажа адзін, — вельмі добрая. Як толькі я ў кватэру, яна здымае з мяне паліто, падае мне пакаёвыя пантофлі і пальчаткі...

— А пальчаткі навошта?

— Посуд мыць...

### Учора чхнуў?

Дзед з бабай пасварыліся і не гавораць між сабой. Але нядоўга стрывалі. У бабы цярпення не хапіла, яна і кажа:

— Стары, ці гэта ты ўчора чхнуў?

— Я! А што табе?

— Будзь здароў! — ласкава кажа баба.

— Дзякую!

Гэтак і памірыліся.

### Напішыце пяць тамоў лістоў

Малады жанаты мужчына ледзь не лямантуе:

— Доктар, што рабіць!? Я закахаўся ў замужнюю жанчыну... Я не магу без яе жыць, яна мне патрэбная, як Бальзаку Эвеліна Ганская. Што мне рабіць?!

— Калі Вы ўжо хочаце так, як гэта было ў Бальзака, то напазычайце грошай, напішыце 90 раманаў і 5 тамоў лістоў да сваёй каханай. Але мушу Вас папярэдзіць: Вы даможацеся свайго за год да смерці. Вы пойдзеце з гэтага свету на 50-м годзе жыцця, а Вашая Эвеліна Ганская, маладзей за Вас на 2 гады, спакойна перажыве Вас на 30 з гакам гадоў... Ці варта? Лепш будзе прадоўжыць раман з той гераіняй, імя якой ужо ўпісана ў Ваш пашпарт.

## Парада

Малады мужчына, прыстойны і прыгожы, просіць доктара-псіхолага, які займаецца праблемамі сям'і:

— Доктар, дапамажыце! Мая жонка хоча са мной развесціся. Яна апошнім часам толькі і гаворыць пра развод. А я не хачу разводзіцца.

— А якая прычына?

— Ёй не хапае грошай. Яна любіць шмат траціць.

— Я магу параіць толькі адно: навучыцеся любіць...

— Доктар, — пе-рабівае яго мужчына, — гэта я ўмею...

— Вы не даслухалі. Калі жонка любіць шмат траціць, то муж павінен навучыцца любіць зарабляць.

ACADEMIA «NS»

# Збіраем матэрыялы для Крыўскай (Беларускай) міфалагічнай энцыклапедыі

**Аўлас.** У багатым паганскім пантэоне нашых прашчураў быў бог — апякун свойскай жывёлы. Ягонае імя можна аднавіць паводле назвы аднаго з зімовых абрадаў, які выконвалі пад вясну: па часе гэты абрад супадаў з масленіцай. У той дзень у сані замест коней «запрагаліся» дзецюкі ды вазілі дзяўчат і дзяцей. У некаторых беларускіх мясцовасцях гэтае свята называлі Уласе. Як можна меркаваць, гэтая назва нагадвае імя Велеса або Воласа, бога-апекуна свойскай жывёлы.

Цікава, што аўтар «Слова пра паход Ігараў» называў «Велесавым унукам» Баяна, які, як меркаваў наш славуты паэт Уладзіслаў Сыракомля, жыў у Менску.

**Баба.** Шмат якія нашыя казкі пачынаюцца словамі: «Жылі дзед ды баба». Так сабе і ўяўляеш, што не было нікога, апроч гэтых дваіх.

Неўзабаве, спадзяёмся, будзе пададзена зацемка пра Дзеда, а цяпер паспрабуем разважаць пра Бабу. Сапраўды, другая, пасля Дзеда, асоба нашага фальклору вядомая пераважна тым, што нараджае галоўнага героя. Верагодна, яна была першым чалавекам. Згадаем, што ў некаторых казках яе дзеці — сынкі-сакалкі — з'яўляюцца на свет тыповым для міфалагічных герояў надпрыродным спосабам: то з яек, што Баба выседзела, то з зярнятка, то ад клубка агню, што ўскочыў праз акно ў хату.

Таму напрошваецца высnова: Баба — прамаці. І калі прыняць гэтую версію, то трэба будзе вызначыць суадносіны, дачыненні нашай міфічнай асобы з багіняй, рэшткі культу якой захаваліся ў абрадзе, які выконваецца напярэдадні Сёмухі. Яшчэ нядаўна паўсюдна на Беларусі прыносілі з лесу бярозавае і кляновае голле ды азда6лялі ім хаты, а дзе-нідзе маладзенькія бярэзінкі ставілі на градах. І ўсю гэтую зеляніну называлі «май». Падобнае слова вядома і ў індуісцкай філасофіі. Там майя — прамаці сусвету. Верагодна, што і ў нашай міфалогіі Баба — багіня-маці, рэшткі культу якой захаваліся ў «маі».

Але ёсць, прыкладам, у казцы «Сын прададзёны» Баба, што жыве (ці хаваецца) ў попеле. Магчыма, хтось з даследнікаў мае той чароўны клубочак, што прывядзе яго да разгадкі ролі гэтай таямнічай асобы. Верагодна, што клубочак можа прыкацыцца да міфічнай асобы, што згадваецца ў наступным артыкуле.

**Баба Юга.** Яе, відаць, не трэба атаясамляць з Бабай Ягой, адпаведнікам якой у вусна-паэтычнай творчасці нашага народа з'яўляецца ведзьма. Баба Юга, калі меркаваць пра яе хоць бы паводле казкі «Іван Сучкін сын Залатыя гузікі», спрыяе таму, хто змагаецца з змеем. Яна пячэ чарадзейны хлеб, які дапамагае галоўнаму герою перамагчы змееў род.

Цалкам верагодна, што чароўны клубочак прыкоціцца ў краіну арыяў. Вядома, прыкладам, што ў індыйскай міфалогіі ёсць паняцце «юга». Яно азначае пэўны часовы тэрмін — час існавання творца сусвету, таксама і чалавецтва.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

**Восець.** Тэрмін абазначае будынак для сушкі снапоў збожжа. Ёсць важкія падставы лічыць, што першапачаткова восець, акрамя гаспадарчай функцыі, мела і культавае прызначэнне. Ва «Уставе князя Владимира о десятинах, судах и людях церковных» (Сінадальная рэдакцыя) да кампетэнцыі царкоўных судоў адносіўся шэраг дзеянняў, звязаных з перажыткамі паганства, напрыклад, ведаўство, чарадзейніцтва, валхваванне, а таксама «...**или кто молиться под овиномъ**, или в рощеньи, или оу воды...» Падобны пералік ёсць таксама ў Красцінінскім, Румянцаўскім і Валакаламскім ізводах гэтага статуту. У «Слове об идолах» (аўтар першай паловы XIV ст.) паведамлялася: «А друзии (моляцца) под авином и в поветех скотьях (г.зн. у хлявах) молятся, аки погании». Але ж стараславянскаму і расійскаму «свин» адпавядаюць беларускія словы «авін», «асець», «осець», «восець», «сець». Вядомы лінгвіст В.У.Мартынаў словы «свин», «авін» лічыць запазычаннем са старажытнаіранскіх моваў. Тэрмін «восець» і блізкія да яго па гучанню словы распаўсюджаны зараз у цэнтры і на поўначы Беларусі, на Смаленшчыне, Пскоўшчыне, Браншчыне, Чарнігаўшчыне, а таксама на ўсходзе Польшчы. У помніках на старабеларускай мове тэрмін упершыню згадваецца ў 1579 г. А.Я.Супрун мяркуе аб балцкім паходжанні слова «восець» і этымалогію яго выводзіць з латышскай мовы. У польскай мове восеці па сэнсу адпавядае слова «stodoła». У беларускіх гаворках стадолай цяпер звычайна называюць хлеў або стайню, раней так называўся заезны двор. Расійскі лінгвіст пачатку нашага стагоддзя А.Г.Прэабражэнскі этымалогію стараславянскага «стадола» выводзіў з германскіх моваў (старажытнаверхненямецкае stadal — «сарай, гумно», старажытнаніжненямецкае stadhal — «прыпынак, размяшчэнне, пазней — месца для складвання пладоў»). Але ж, на нашу думку, сугучным са «стадолай» і згаданымі германскімі назовамі з'яўляецца беларускае дыялектнае «стод», што абазначае ідала (параўн. шведскую stod — «статуя»). Не з'яўляючыся мовазнаўцам, усё ж рызыкну дапусціць, што стадолай першапачаткова называлі будынак, у якім стаялі стоды. Той жа А.Г.Прэабражэнскі слова «стод» этымалагізаваў са старажытнапаўночнагерманскага stod, stud — «стойка, слуп, падпорка».)

Як згадвае ў сваім даследаванні пра паганства Б.А.Рыбакоў, сяляне поўначы еўрапейскай часткі Расіі яшчэ ў XIX ст. надавалі печы ў восеці выгляд вялізнага страшыдла з разяўленай пашчай і вогненнымі вачыма. На думку гэтага даследчыка, тое было «рэальным увасабленнем бога агню Сварожыча, сына нябеснага Сварога».

Знішчэнне паганскіх свяцілішчаў прадстаўнікамі ўлады і царквы пачалося адразу пасля прыняцця хрысціянства. Але паколькі восеці мелі ў першую чаргу гаспадарчае прызначэнне, гэта служыла гарантыяй іх захаванасці. Да таго ж у адрозненне ад буйных капішчаў, да якіх сыходзілася для рытуальных дзеянняў насельніцтва цэлай акругі або нават вобласці, восеці належалі асобнай сям'і ці роду і таму выконвалі функцыі сямейных свяцілішчаў. Па гэтай прычыне і прасачыць уладам ці хрысціянскаму духавенству за выпадкамі маленняў язычнікаў «под овином» было значна цяжэй. Зыходзячы з таго, што ў восеці сушылі снапы збожжа, варта меркаваць, што ў час маленняў «под овином» ушаноўвалі не толькі божышча агню, але і міфалагічных персанажаў, звязаных з аграрнымі культамі, урадлівасцю.

**Эдвард ЗАЙКОЎСКІ.**

# Заява

Удзельнікі Другой нацыянальнай канферэнцыі «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі» прынялі заяву, у якой выказалі сваю занепакоенасць вынікамі рэспубліканскага рэферэндуму. Фактычна ўсяго каля паловы дарослага насельніцтва Беларусі вызначыла змену моўнага кірунку развіцця дзяржавы.

«Мы, удзельнікі канферэнцыі, — гаворыцца ў заяве, — спадзяёмся, што ў кіраўніцтва дзяржавы хопіць здаровага сэнсу не перашкаджаць, а падтрымаць намаганні шматлікіх энтузіястаў на шляху стварэння і спарадкавання беларускай навуковай тэрміналогіі. Гістарычны досвед нашых суседзяў сведчыць пра тое, што такая праца ўздымае міжнародны аўтарытэт краіны і ўмацоўвае зычлівы клімат у грамадстве. Спадзяёмся, што на наступнай, трэцяй нацыянальнай канферэнцыі па навуковай тэрміналогіі будуць падставы канстатаваць новыя дасягненні, пашырэнне творчых кірункаў у беларускай тэрміналагічнай навуцы».

Матэрыял пра канферэнцыю чытайце ў наступным нумары.

Кангрэс беларусістаў

(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)

А цяпер колькі слоў пра даклады, якія выклікалі найбольшую зацікаўленасць. Такім, на думку старшыні секцыі па міжнацыянальных адносінах **Міхала Біча**, з'явіўся даклад праф., загадчыка аддзела Інстытута археалогіі расійскай АН Валянціна Сядова на тэму «Пачатковыя этапы этнагенезу Беларусі». Працы вучонага маюць капітальнае значэнне для гісторыяграфіі і гісторыі беларускага этнасу. Яны ставяць «апошнюю кропку» ў афармленні канцэпцыі часу ўтварэння беларускага этнасу, які датуецца V—VI стст. нашай эры. Аргументы і сістэма доказаў грунтуюцца на дзесятках, а магчыма, і сотнях даследаванняў па розных галінах навукі (археалогія, тапаніміка, гістарычная лінгвістыка і інш.) у комплексе. З павышанай цікавасцю таксама былі выслуханы тыж беларусазнаўства ў свеце? Адказ такі: праз стварэнне беларускіх культурных цэнтраў, у тым ліку і за межамі Беларусі. Удзельнікі секцыі пастанавілі адзначыць у выніковых дакументах кангрэса свядомую няўвагу ўрада Рэспублікі Беларусь да праблем нацыянальнага Адраджэння, што выявілася, у прыватнасці, праз ігнараванне афіцыйнымі сродкамі масавай інфармацыі работы кангрэса.

**Аляксандр Баршчэўскі** адзначыў, што ўсе выступленні «круглага стала» па беларуска-польскіх гістарычна-культурных узаемадачыненнях былі арыгінальнымі і мелі характар літаратурны, перакладчыцкі, этнаграфічны і гістарычны. Лейтматыў пасяджэння: Беларусь не можа быць ані плачам Еўропы, ані смехам Еўропы, а толькі партнёрам для ўсіх вольных еўрапейскіх суседскіх народаў.

# Беларусь паміж Усходам і Захадам

даклады Фердынанда Нойрайтэра з Зальцбурга («Беларусь у грамадскай свядомасці аўстрыйцаў») і Руносукэ Курода з Японіі («Беларусь вачыма японцаў». Спроба гістарычнага агляду»). На думку спадара Біча, даклады гэтыя трэба аператы́ўна апублікаваць у прэсе, не чакаючы выхаду зборніка.

Па рабоце секцыі «Міжканфесійныя адносіны» (старшыня **Анатоль Грыцкевіч**) адзначаўся аналітычны характар усіх дакладаў, у якіх разглядаліся аспекты не толькі міжканфесійных стасункаў, але і гісторыя развіцця асобных цэркваў і канфесій у пэўным акрэсе часу, — уніяцкай, праваслаўнай, каталіцкай і сектанцкіх. Старшыня секцыі вылучыў даклад Алега Трусава («Атэізм у Беларусі як сродак знішчэння беларускай нацыі»), прысвечаны палітыцы атэізму ў постсавецкай Беларусі. Характарызуючы работу секцыі па гісторыка-культурных дачыненнях, **Дж. Дынглі** сказаў: «Даклады спадароў В.Рагойшы «Сучасная культура Беларусі: маналог, дыялог, палілог?» і Валянціна Грыцкевіча «Формы і спосабы вывучэння гісторыі славянскіх культур» маюць унікальнае значэнне для нашага панняцця патрэбнай метадалогіі падыходу да беларускай культуры. Каб асэнсаваць іх змест, трэба іх прачытаць зноў і зноў. Высокай ацэнкі заслугоўваюць таксама выступленні Генадзя Семенчука, Генадзя Сагановіча і Юрыя Лабынцава.

**Герман Бідэр** ахарактарызаваў большасць выступленняў па праблемах мовы, што прагучалі на секцыі «Моўныя і літаратурныя кантакты». Выступоўцы паказалі працэс складвання славянскіх моў і літаратур, іх стан і ўзаемадзеянне з іншымі мовамі (напрыклад, даклад Соні Хайль «Беларускія дзеяпрыслоўныя канструкцыі ў нямецкім перакладзе»). **Ірына Шаблоўская** па рабоце той жа секцыі ў галіне літаратуры адзначыла, што на ёй былі абмеркаваны тры галоўныя праблемы: вяртанне беларускай літаратуры ў сусветны кантэкст, унутранае выспяванне беларускай літаратуры ў новых умовах і дыялог з краінамі свету. Праблема развіцця беларускай літаратуры на крыжавых дарогах Усход—Захад разгледжана на шырокай гістарычнай прасторы — ад XV—XVI стст. да 90-х гадоў XX ст. уключна. У ліку лепшых быў названы даклад рэдактара газ. «Беларус» у ЗША Зоры Кіпель «Беларуская перакладная літаратура XV—XVII стст. як мост паміж Захадам і Усходам». Дакладчыца паказала глыбокія карані беларускай літаратуры, раскрыла ўплыў заходняга рэнесансу на яе развіццё, які выявіўся ў росквіце пісьменства на роднай мове, сваё месца якой саступілі лацінка і царкоўнаславянская мова. З.Кіпель таксама паказала шляхі, якімі заходнееўрапейская літаратура распаўсюджвалася на Усход. На жаль, пасрэдніцтва беларускай літаратуры ў гэтым працэсе пазней ігнаравалася і так заблыталася тэрміналогіяй («польска-руская», «літоўска-руская», «северо-западная», «белорусское наречие»), што навукоўцы пачалі абыходзіць гэта пытанне.

**Моніка Банькоўскі-Цуліг** адзначыла, што ўдзельнікі секцыі «Пытанні адукацыі» паспрабавалі адказаць на пытанне, пастаўленае Дж.Дынглі на пленарным пасяджэнні, а менавіта: як падняць прэс-

Ацэньваючы работу «круглага стала» па беларуска-расійскіх дачыненнях, **Вячаслаў Рагойша** лепшымі прызнаў даклады Юрыя Сураўцава («Адносіны паміж постсавецкай Расіяй і Рэспублікай Беларусь»), Аляксея Мусорына («Беларусізмы ў рускіх гаворках Новасібірскай вобласці»), Уладзіміра Мальцава («Жыццё беларускай інтэлігенцыі ў Вяцкай ссылцы», 1930-я гады), Вячаслава Шведа («Расійская палітыка ў галіне адміністрацыйнага ўладкавання далучаных тэрыторый Беларусі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай») і Зміцера Карава («Беларусь у расійскай гістарыяграфіі XVIII—XIX стст.»). У пералічаных дакладах дамінавала канцэпцыя праўды ў беларуска-расійскіх гісторыка-культурных узаемаадносінах. Падкрэслівалася, што для дружбы народаў і перш за ўсё для беларуска-расійскай дружбы вельмі важнай з'яўляецца канцэпцыя праўды, якой бы горкай яна ні была.

**Адам Мальдзіс**, які вёў «круглы стол» «Лёсы беларускіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей у час Другой сусветнай вайны», паведаміў новыя факты пра месцазнаходжанне некаторых каштоўнасцей беларускай культуры. Гэта стала вядома са спіса каштоўнасцей, які быў складзены пасля заканчэння вайны ў амерыканскай зоне акупацыі і зараз перададзены сп. Фрайтаг з г.Брэмен Беларусі. Праўда, частка беларускія матэрыялы выступаюць у гэтым спісе пад назвай «савецкія» або «расійскія», — адсюль цяжкасці ў ідэнтыфікацыі тых або іншых пазіцый. У час работы «круглага стала» былі праяўлены добрай волі — у Германію і на Украіну перададзены іх каштоўнасці.

Спадар Мальдзіс таксама прыгадаў, што да гэтага часу Беларусі не вернута з Украіны унікальная бібліятэка графа Храптовіча. І калі ў краінах-суседзях існуюць дзяржаўныя камісіі па вяртанні каштоўнасцей, то ў Беларусі такога органа на грамадскай або дзяржаўнай аснове няма. «Мы баімся заявіць свае правы на многія нацыянальныя каштоўнасці, якія трапілі ў суседнія краіны ў выніку ваенных дзеянняў або ў выніку выпадковасці», — сказаў прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў у заключэнне.

Цікавыя справаздачы прагучалі таксама па рабоце секцыі «Беларуская дыяспара», беларуска-літоўскіх, беларуска-латвійскіх і беларуска-ўкраінскіх «круглых сталоў».

Падсумоўваючы вынікі апошняга пленарнага пасяджэння, Адам Мальдзіс адзначыў, што Беларусь месціцца паміж Усходам і Захадам, межы паміж якімі былі рухомымі ў розныя гістарычныя перыяды, таму ўвесь час дыскутуецца пытанне, да каго мы належым: да Усходу ці да Захаду? Сёння гэта пытанне не толькі навуковае, але і практычнае, таму што нам цяжка вызначыць усё тое, што сёння адбываецца на нашай Беларусі. Ці гэта заканамерная наканаванасць пагранічча, ці ўсё-такі часовая выпадковасць? І далей. Пагранічча вызначаецца заўсёды нацыянальнай, прафесійнай і культурнай разнастайнасцю. Дык гэта разнастайнасць — наша шчасце ці няшчасце? Багацце ці беднасць?

На гэтых пытаннях, якія хвалююць нас усіх, я закончу свой рэпартаж пра Другі Міжнародны кангрэс беларусістаў.

**Ірына КРЭНЬ.**

# Шэдэўры нашай літаратуры, напісаныя на лаціне

*Беларуская літаратура XVI стагоддзя мела ўласную эпічную прозу і паэзію. Першымі друкаванымі творамі гэтага жанру былі паэмы Яна Вісліцкага «Пруская вайна» (1516) і Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» (1523).*

*Значэнне «Прускай вайны» Яна Вісліцкага для складвання героіка-эпічнай паэтычнай традыцыі ў тым, што яе аўтар дзеля паказу гістарычнай рэчаіснасці сярэдневяковай Беларусі звярнуўся да антычных узораў легендарна-міфічнага зместу, спрабаваў пераняць класічны ідэальны твор. Зрэшты, у яго не было іншага выбару, бо ў той час толькі антычная паэзія была адзіным прызнаным узорам мастацкай дасканаласці.*

*Канкрэтным узорам для наследавання Яну Вісліцкаму паслужыла знакамітая паэма Вергілія «Энеіда», вергіліева мадэль эпасу і асобныя матывы, сітуацыі ягонага твора.*

*Плённае перанясенне «Энеіды» ў «Прускую вайну» сталася немагчымым з наступных прычынаў. Ян Вісліцкі апісваў рэальныя гістарычныя падзеі з удзелам рэальных асобаў і тлумачыў іх учынкі, а Вергілій апяваў легендарных герояў, іх прыгоды, якія сам прыдумваў адпаведна патрабаванняў сюжэта. Міфалагічны змест «Энеіды» немагчыма было па-сапраўднаму зразумець і зрабіць зместам новага літаратурнага твора, немагчыма было грэцкі міф зрабіць адным з кампанентаў эпічнага твора іншага часу. Таму і атрымалася так, што «Пруская вайна» насычана міфалагічнымі вобразамі, што каралю Ягайлу ў ваенных справах дапамагае хрысціянскі Бог, але антычныя паганскія багі выбіраюць яму за жонку Соф'ю Гальшанскую.*

**(Паводле кнігі Сяргея Кавалёва «Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст.)**




*Ян ВІСЛІЦКІ*

## Пруская вайна

*(Урывак. Пераклад з лацінскай Я.Парэцкага).*

Слаўны той край адусюль ацянёны лясамі і пушчай,
Да стэпаў самых, дзе скіфы, даходзіць яго панаванне.
Ніў пладародных там зелень і многа напіткаў мядовых.
Край той таксама багаты насельніцтвам, воінствам храбрым.
Людзі мясцовыя, прості народ гэты край называюць
Здаўна Літвой, жыхары жа рупліва тут цвёрдую глебу
Цвёрдым рыхляць лемяшом і зямлю, ураджай урабляюць.
Дзед твой Ягайла, вядомы, у гэтай багатай краіне, —
Ён правадыр, нарадзіўся з прозвішчам светлым «вялікі» —
..................................................................................
Гонар такі прызнаюць у вялікай частцы Еўропы.
Лягуць яму пасаромленых немцаў пад ногі фалангі,
У Прусіі граніцах разгром іх дашчэнтны падрыхтаваны.
..................................................................................
Правіў Ягайла краінай, дзе Дняпра струмень велізарны
Правіў русінамі, славутыя, смелыя людзі...
..................................................................................
........... мядзведзіца ў інеі белым
Грэе у абдымках сваіх караля, у сівізне пастарэў ён,
Не дачакаўся нашчадкаў, няма ў яго сына,
Шлюбныя сувязі знаў ён трайныя і Гіменея,
..................................................................................
Столькі бясплодных гадоў залатая Венера без справы
У шлюбе дала састарэцца, відаць, раззлавалася недта...
..................................................................................
.........................., і з сумным стагнаннем Венера:
«Столькі мінула гадоў, і мой гнеў на старога дарэмны.
Усё ж цяпер непрыемна, што такое я глупства рабіла,
Гневу сляпога прычыны наўрад ці слушныя былі,
..................................................................................
Выцерла слёзы Венера і твар свой заплаканы, кажа:
«Ёсць у мяне беларуская німфа і славіцца у свеце,
Німфа — дзяўчын больш прыгожых няма, нат з багінь, так прывабных.
Соф'яй яе называюць у народзе, аратыя славяць,
Чаруе аблічам і маляўнічасцю мовы.
Зграбная, дык у цяні пакідае красунь старажытных.
Гэтую шлюбам звяжу з каралём і вяселле наладжу,
У свеце шырокім шчаслівай зраблю каралеву патомствам».
..................................................................................
І адпраўляйся да Софіі, высакароднай дзяўчыны,
У шлюбе гатовай табе нарадзіць наследнікаў трону.
На неабсяжных палях у князёў беларускіх магутных
Знойдзеш яе, прыгажуню — сыноў, каралёў двух убачыш,
Зоркі і рэкі пакуль захаваюцца, — будуць на троне,
Сталую славу, імя ім жывое зямля падарэ,
Роду, Ягайлы нашчадкам у вяках велізарным.
Стане правіцелем Польшчы адзін, укладзе ён карону,
Знай, Казімір гэта будзе, і жыць панаваць яму доўга...
Слаўных сыноў народзіць яму, следам і ўнукам радзіцца.
..................................................................................
Па раздарожжах, шляхах, у вёсках усё шырыцца чутка,
Што да Ягайлы прыбудзе прызначаная нявеста.
Зніч вясельны панёс Гіменей, запаліў у палацы.
Там запявае гусляр, барабаны гудзяць безупынна,
Лютні і ліры струной урачыстай напевы разносяць.
Валіць народу натоўп, урачыстыя крочуць атрады.
Перлы бліскучыя — залататканых убораў аздоба.
Усё памнажае красу беларускай цудоўнай нявесты.
Чыстая дзева на трон, ёй прызначаны лёсам, садзіцца.
Пурпурам тырскім і пышным кілімам пасад апрануты.
Цар абдымае сардэчна, пяшчотна дзяўчыну-русінку,
Левую руку трымае, праводзіць у прасторы палаца,
..................................................................................
............................дачакаўся з нявестай
Гонару боскага, у вяках славутага роду, патомства —
Двух каралёў нарадзіла цудоўная гэтая жонка.
Подзвігам Марса праславіліся ў далёкіх краінах.

***Скарбы беларускай вуснай народнай творчасці***

## Прыказкі, прымаўкі

— Каб, крый Божа, не ўмеў дрыжаць, то памёр бы.

— Другому дагадзіў, а сабе пашкодзіў.

— Каб на панскі розум чалавек хітрасці не меў, дўна прапаў бы.

— Не пазычай: пазычай — злы абычай.

— Пакуль злапаюць, то аброкам вітаюць, а як зловяць, то не даюць аброку, а кіем па боку.

— Нашто мне каня? Сам буду саху насіць.

— Не той дурань, каго завуць дурнем, а той — дурань, хто чужым розумам жыве.

— Паспех людзям на смех.

— Сані наладзіў, а каня няма.

— Злая іскра ўсё спаліць і сама згіне.

— Наварылі кашы, ды невядома, ці паядуць.

— Прыйшлі і мы да Хамы, а той і сам бедны.

## Праклёны

— Вып'ем, браце, каб нашыя варагі выкаціла да нагі!

— Каб нашым ліхадзеям тое самае, што нам думаюць!

— Каб табе даўлялося на Крэўскі замак каменне цягаць!

— Каб нашы ворагі тое з'елі, што яны нам думаюць.

## Загадкі

— Чатыры ладкі плешчуць, дзве зорачкі гараць, дзве свечачкі стаяць, і тысяча свішча (Конь).

— Не араты, не каваль, не плотнік, а першы на вёсцы работнік (Конь).

— Ходзіць дабро ў дабры, я тое дабро выберу, тым дабром да тое дабро выганю (Конь у пшаніцы).

— Лезу, лезу, на жалезу, куды захачу, туды й палячу (Чалавек садзіцца на каня).

— Вясной конік іграе, а летам аддыхае (Вада ў ручаі).

— Конь бяжыць, шкура ляжыць (Рака і лёд).

— Сівенькі жарабец па ўсяму свету ржэць (Гром).

## Дзіцячая паэзія

— Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Куплю чаравічкі.
Ножкі невялічкі.
Трэба каня падкаваць —
Каб удала начаваць.

***«Беларускі кнігазбор»***

Вынікі рэферэндуму паказалі, што мы — народ, у якога адабралі гістарычную памяць. Каб вярнуць яе беларусам, каб мы ўсвядомілі сябе адметнай, культурнай нацыяй, нам як найхутчэй трэба падняць на свет Божы вякамі хаваную ад нас нашу вялікую літаратурную спадчыну.

Якраз з гэтай мэтай і ўтварылася нядаўна ў Менску прадстаўнічае грамадскае аб'яднанне — Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор». Сярод яго заснавальнікаў С.Андраюк, Н.Гілевіч, В.Зуёнак, В.Каваленка, А.Клышка, А.Мальдзіс, М.Мішчанчук, Б.Сачанка, В.Чамярыцкі, Я.Шпакоўскі, С.Шушкевіч.

Галоўная задача аб'яднання — ажыццявіць па-навуковаму сістэматызаванае, шматтомнае выданне ўсяго лепшага з літаратуры, што было створана на беларускай зямлі ад пачатку пісьменства да нашых дзён. Рыхтуюцца дзве серыі: «Мастацкая літаратура» і «Гісторыка-літаратурныя помнікі», у яркіх мастацкіх вобразах і дакументальных матэрыялах раскрые перад чытачом усю тысячагадовую гісторыю нашага народа, раскажа пра яго зямлю, культуру, асабліваасці нацыянальнага характару. Апрача кніг беларускіх пісьменнікаў, у шматтомніку знойдуць месца і пераклады на беларускую мову твораў тых звязаных з нашай зямлёй літаратараў, якія пісалі на іншаземных мовах — лацінскай, польскай, расійскай, яўрэйскай і інш. Побач з творамі Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Васіля Цяпінскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы і многіх іншых беларускіх пісьменнікаў чытач атрымае на роднай мове і асобныя кнігі твораў Францішка Багамольца, Юльяна Нямцэвіча, Адама Міцкевіча, Юзафа Крашэўскага, Элізы Ажэшкі, Паўла Шпілеўскага ды іншых пісьменнікаў, якія праўдзіва расказалі ў сваіх творах пра нашу Беларусь. З гісторыка-літаратурных помнікаў мяркуецца выдаць даўно забытыя кнігі нашых гісторыкаў, філосафаў, этнографаў, фалькларыстаў, мовазнаўцаў розных часоў — Яна Ласіцкага, Саламона Рысінскага, Зарыяна Далэнгі-Хадакоўскага, Канстанціна і Яўстафа Тышкевічаў, Тэадора Нарбута, Міхала Балінскага, Аляксея Сапунова, Адама Кіркора, Аляксандра Ельскага, Адама Багдановіча, Яўхіма Карскага, Вацлава Ластоўскага, Чэслава Пяткевіча, Аляксандра Сержпутоўскага і г.д. Гэта ўсё літаратура, якая на працягу стагоддзяў адкрывала свету беларусаў.

**Вернем сваю гістарычную памяць**

Шматтомнік будзе выходзіць пад агульнай назвай — «Беларускі кнігазбор». Ажыццяўляць яго будуць лепшыя навукоўцы і творцы на чале з Інстытутам літаратуры нашай Акадэміі навук і Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Францішка Скарыны. У кожным томе чытач знойдзе грунтоўны ўступны артыкул, неабходны каментар. Гэта будзе сапраўдная нацыянальная бібліятэка Беларусі, своеасаблівы хатні універсітэт беларусазнаўства.

Вядома ж, пачынаць такую вялікую працу ў наш няпросты час архіскладана. Але, мяркуем, грамадою справімся. Усіх, хто хоча вярнуць беларускаму народу яго гістарычную памяць, просім спрыяць выданню «Беларускага кнігазбору», ахвяраваць грошы.

Імёны фундатараў, надрукаваныя на самых відных старонках выданняў, уславяць іх на стагоддзі, стануць лепшай рэкламай іх фірмаў. Выданне кожнай кнігі — у прыгожым серыйным афармленні — будзе святам нашай культуры. Самі фундатары стануць удзельнікамі ўрачыстых прэм'ераў кніг «Беларускага кнігазбору» ў Доме літаратара, што будзе паказвацца па тэлебачанні.

Звяртайцеся: 220034 Менск, Фрунзе, 5. Дом літаратара. Тэл.: 36-09-09, 63-99-46. Разліковы рахунак: 700911 у «Менсккомплексбанку» код 734.

**Кастусь ЦВІРКА, прэзідэнт МФ «Беларускі кнігазбор».**

***Анталогія беларускай народнай эратычнай паэзіі***

## Дзед боб малаціў ...

Пачатак гэтай прыпеўкі ведаюць, відаць, усе нашыя чытачы, хто толькі бачыў ці чытаў Купалаву «Паўлінку». Запісаў жа яе цалкам ад Клеменса Грыба з вёскі Скрандзявічы, што каля Казлоўшчыны, вядомы этнограф Міхал Федароўскі. З ягонага шматтомнага збору «Lud Białoruski» мы і перадрукоўваем прыпеўку.

A dzjèd bob małaciụ,
Bàba padsiewàła;
Dzjed u bàby prasłụ,
Bàba ni dawàła.
Kalì mnie nì dałà,
Ni dawàj nikòmu,
Zatknì kułakòm,
Uciekàj da dòmu!
Ja ciebiè prywiażù
K zielònamu dubụ,
Chaj ciabiè waụkiè
ja nie bùdu!

Зрабі сам

# Сцяна

Прапануем чытачам матэрыял, які дазволіць пазнаёміцца з будаўнічай тэрміналогіяй, а таксама дасць узор таннай і «здаровай» сцяны з так званай каркаснай або рамнай канструкцыі. З дапамогай нашых чарцяжоў кожны гаспадар можа паставіць невялікія гаспадарчыя пабудовы і нават жылыя памяшканні, не кажучы ўжо пра сцены-перагародкі.




**Агульны выгляд.** Каркас сцяны такой канструкцыі складаецца з: падваліны (1), слупоў (2,3), адкосіны (6), ачэпу (4), рыгеляў (7,8).

**Падваліна.** Брус падваліны кладзецца ўсёй яго даўжынёй на падмурак, ізаляваны толем. Да падмурка падваліна мацуецца з дапамогай жалезных гакоў, якія забетанаваныя ў падмурку.

На вуглах падваліны злучаюцца «ў замок» або з дапамогай нагеля — драўлянага цвіка.

**Слупы.** Яны ставяцца ў месцах злучэння падвалінаў (на вуглах), паабапал ваконных «вушакоў», да якіх мацуецца ваконная каробка, паабапал дзвярных вушакоў (праёмаў), а таксама ў іншых месцах, дзе вонкавая сцяна злучаецца з унутранай.

Слупы-нарожнікі злучаюцца як з падвалінай, так і з ачэпам (4) з дапамогай выразаных ці цясаных бочных шыпоў (малюнак 1). Бочныя шыпы называюцца так таму, што яны выразаюцца не ў сярэдзіне слупа, а ссунуты да аднаго боку. Іншыя слупы з падвалінай і ачэпам злучаюць сярэдзінным шыпам. Пад шыпы выдоўбваюць гнёзды («чашкі»).

Можна таксама ўставіць («запусціць») слуп цалкам у гняздо адпаведнага памеру ў падваліне ці ў ачэпе.

**Адкосіна** (укосіна, раскос) (6). Адкосіны дадаткова ўмацоўваюць каркас сцяны, надаюць ёй большую ўстойлівасць. Іх ўстаўляюць («запускаюць») у падваліну і ў ачэп на касыя шыпы з зацёсам 3—4 сантыметры (малюнак II) або без зацёсу.

**Рыгелі** (7,8). Іх ставяць над ваконнымі і дзвярнымі праёмамі, пад ваконнымі праёмамі, а таксама паміж слупамі прыблізна на сярэдзіне вышыні слупоў, каб дадаткова ўмацаваць каркас.

Рыгелі ўстаўляюць («запускаюць») у слупы з дапамогай высечкаў або простых шыпоў. А для рыгеляў, што ставяцца над дзвярнымі і ваконнымі праёмамі, у слупах («вушаках») дадаткова робяць зацёсы на 2 сантыметры, звернутыя ў бок ваконнага ці дзвярнога праёмаў (малюнак III).

З адкосінай рыгель злучаецца з ўкосны («дыяганальны») шып.

Усе шыпы дадаткова злучаюць яшчэ і драўлянымі нагелямі, найлепей дубовымі, грабавымі ці акацыявымі.

**Ачэп** (апошні вянок зруба) (4). Ачэп злучае ўсе пастаўленыя слупы і размяркоўвае на іх цяжар даху. У ачэпе выдоўбваюцца гнёзды памерамі на ўсё сячэнне слупа. Апроч таго, месцы злучэння («запуску») слупоў дадаткова ўмацоўваюцца драўлянымі нагелямі.

**Кроквы** злучаюць з ачэпам («запускаюць») з дапамогай узаемных усечак. Але гэта самы просты спосаб. У беларускім народным дойлідстве вядомы розныя віды «запуску кроквaў», аднак цяпер пераважна выкарыстоўваецца спосаб умацавання кроквaў у папярочныя бэлькі, вядомы пад назвай «у пяту»: кроква цалкам запускаецца ў выдаўбленае «гняздо» папярочнае бэлькі.

Каркас сцяны ашалёўваюць (абіваюць) з абодвух бакоў (ці з аднаго боку) дошкамі. Дошкі можна класці падольна (па гарызанталі) ці старчма (па вертыкалі). Першым спосабам, звычайна, абіваюць вонкавыя сцены (гэта добра было відна на здымках у першым нумары), а другім — унутраныя.

П.П.
















## Як вызначыць якасць будаўнічых матэрыялаў

ЦЭМЕНТ. Калі добры цэмент узяць у руку і сціскаць яго, то ён паплыве з-пад пальцаў. А як у жмені застануцца дробныя грудачкі, то гэта і ёсць першая прыкмета, што цэмент зляжаўся, якасць яго знізілася, і, вядома, нельга гарантаваць высокую трываласць вырабаў з такога цэменту.

Падчас захавання цэменту яго якасць пагаршаецца штомесяц прыкладна на 5%. Напрыклад, на працягу першых трох месяцаў ляжання цэмент страціць 15—20%, 6 месяцаў — 25—30%, за год — 30—40%, а за 2 гады — амаль палову сваіх уласцівасцяў.

ВАПНА. Якасць вапны можна вызначыць так. Замешваем вапнавае цеста, дадаем тры часткі пяску і на гэтым растворы складаем слупок з 8 цаглінаў (бяром чырвоную цэглу). Праз чатыры дні слупок асцярожна падымаем за верхнюю (восьмую) цагліну, і калі слупок не разарвецца, то вапна добрая.

ГЛІНА. Якасць гліны залежыць ад колькасці прымесяў, пераважна пяску. І калі добрую гліну памяць у пальцах, то яна будзе падавацца тлустай, цвёрдых часцінак не павінна адчувацца. Кавалачак гліны трэба раскатаць у далонях да таўшчыні 1,5—2 сантыметраў і расцягваць. Суглінак амаль не расцягваецца і рвецца, утвараючы тоўстыя канцы. А тлустая гліна выцягваецца плаўна і рвецца, калі зусім патанчае, утвараючы тонкія і вострыя канцы.

Калі з гліны розных гатункаў намяць шарыкаў дыяметрам 4—5 сантыметраў і высушыць, то найбольшая колькасць трэшчынаў будзе на паверхні шарыка з тлустай гліны.

ПЯСОК. Добры пясок не пэцкае рукі, ён не павінен мець грудачкаў гліны, не кажучы ўжо пра зямлю ці дзёран. Дробным пяском лічыцца той, які мае друзачкі 1,5 мм, сярэдняй буйнасці — ад 2 да 2,5 мм, а звыш 2,5 мм — буйны. Такі пясок звычайна называюць жвірам.

БУДАЎНІЧЫ ГІПС (АЛЕБАСТРА). Якасны гіпс не павінен мець грудак, якія звычайна хутка ўтвараюцца, у два разы хутчэй, чым у цэменце.

## У «здаровым» ложку — здаровы сон

Кожны гаспадар павінен умець майстраваць. І пачаць, відаць, варта з самых простых, але неабходных рэчаў. Мы падаем тут схему ложка, які можна зрабіць самому. Часу на гэту работу вы затраціце няшмат, менш, чым у чэргах ля мэблевай крамы. А выйгрыш будзе непараўнальна большы: замест спрасаванай з трэсак, апілак ды сінтэтычнага клею ламачыны вы будзеце мець «здаровы» ложак ды яшчэ будзеце ганарыцца, што зрабілі яго ўласнымі рукамі.

Вам спатрэбяцца:

1. Дошка 1950 х 160 х 20 мм — 2;
2. Дошка 700 х 80 х 18 мм — 14;
3. Дошка 740 х 160 х 20 мм — 2;
4. Дошка 160 х 80 х 20 мм — 2;
5. Рэйка (5) 1950 х 20 х 20 — 2;
6. Мэблевыя знузні (балты) — 8;
7. шрубы — 28.

Ложак найлепей майстраваць з дубовых, хваёвых альбо бярозавых дошак. Дуб, як даўно заўважылі нашы продкі, мае не толькі самую трывалую драўніну, але і спрыяе здароўю чалавека. Нездарма ж дуб садзілі на капішчах, дзе складалі дары багам. Цяпер у нас ад тых ведаў засталося, бадай, толькі лячэнне дубовай карою. Раны, прамытыя яе адварам, хутчэй гояцца Ці не адбудзецца тое ж з нашымі душэўнымі ранамі, калі мы час ад часу хацяб пасядзім пад дубам.

Дуб, як і кожнае дрэва, а таксама і чалавек, мае сваё біяполе. Яно вельмі спрыяльнае для чалавека. Да таго ж у дубе за час яго росту назапашваецца сонечная энергія, якая захоўваецца і ў ссечаным галамені (ствале). І калі мы зробім ложак з дубовых дошак, то забяспечым сябе станоўчым яе ўздзеяннем хаця б на час сну. Але для гэтага трэба дубовыя дошкі бакавінаў укладаць адпаведным спосабам, каб вершалінны канец дошкі прыпадаў да высокага біла (спінкі) дзе кладзецца, звычайна, падушка, а камлёвы канец — да нізкага біла.

Біла ложка неабходна рабіць з дзвюх (чатырох, шасці) дошак, якія кладуцца мітусь. Гэта значыць, адна дошка вершалінным канцом мацуецца да камлёвай часткі другой дошкі. Такім чынам нейтралізуецца энергетычнае поле дошак біла і яно не будзе сутыкацца з біяполем бакавінных дошак. З гэтай жа мэтай дошкі ляжака, дзе кладзецца сяннік, таксама мацуюцца мітусь.

Калі вы захочаце зрабіць сабе сапраўды здаровы ложак, то вам трэба адмовіцца ад металічных шрубаў. Вам прыйдзецца клеіць. Клей, вядома, павінен быць сталярны ці казеінавы, бо сінтэтычныя клеі выпараюць атрутныя рэчывы. Для мацавання дошак ляжака можна выкарыстаць драўляныя цвікінагелі з цвёрдай драўніны (дуб, ядловец).

Але і на «экалагічным» ложку вы будзеце пачуваць сябе дрэнна, калі ён будзе стаяць абы-як, без уліку магнітнага поля зямлі. Трэба, каб ложак узгалоўем быў накіраваны на поўнач, што можна вызначыць паводле стрэлкі компаса. Часам, праўда, чалавек не адчуе паляпшэння стану здароўя нават тады, калі ён паставіць ложак адпаведна магнітнага поля зямлі. Трэба ведаць, што ёсць месцы з так званымі магнітнымі анамаліямі. У такіх выпадках трэба карыстацца вопытам продкаў. Прыглядзьцеся, як ляжаць кот ці сабака: іх цела заўсёды накіравана ўздоўж магнітных ліній. Маленькія дзеці, дарэчы, таксама адчуваюць магнітныя лініі зямлі ды ў час сну ўкладваюцца адпаведна іх напрамку, нават папярок ложка.

**Баляслаў ТУМАШЧЫК.**

***Ганна ЦЮНДЗЯВІЦКАЯ,***
***гаспадыня з Вільянова Барысаўскага павету***

*Як даказаў наш славуты даследнік Адам Мальдзіс, менавіта Ганна Цюндзявіцкая, народжаная ў 1803 годзе ў Каралішчавічах каля Менска, склала кнігу, а дакладней — гаспадарчую энцыклапедыю, якая выдавалася ў 1848 годзе (пры жыцці аўтаркі) і ў 1851, 1856, 1858, 1862, 1873 гадах. Аўтарка назвала яе «Літоўская гаспадыня», што павінна азначаць «Беларуская гаспадыня», бо Ганна Цюндзявіцкая пражыла сваё кароткае жыццё на Беларусі, на Меншчыне, напэўна, размаўляла па-беларуску, бо ў кнізе шмат беларусізмаў. Спадзяёмся, што нашы чытачы, каму не ўдалося купіць «Літоўскую гаспадыню», выдадзеную ў 1993 годзе па-беларуску, з карысцю для сябе прачытаюць даўнія парады.*

## Як захоўваць футра ўлетку

У пакоі, куды нікому не трэба заходзіць хаця б два-тры дні, вешаюць усю зімовую вопратку. Яе не толькі абкурваюць дымам, але і як мага мацней надымліваюць у памяшканні тытунём, сухой крапівой і рагавымі апілкамі, г.зн. саскрэбанымі з рагоў і капытаў скаціны. Вугалі дзеля гэтага бяспечней класці ў гаршкі ці ў печ, у якой юшка зверху зачынена. Акрамя таго, у пакоі ставяць міску з хлорнай (відаць, салянай. — *Рэд.*) кіслатой, трохі апырсканай вадой. Газ, што выдзяляецца, атручвае і знішчае моль.

Скрыні для футра павінны быць зроблены з смалowага дрэва, звонку памаляванага алейнай фарбай, і абавязкова насычаныя дымам і газам.

Пасля двух-трох дзён абкурвання адчыняюць дзверы і вокны, каб праз іх выйшаў вельмі шкодны для людзей хлорны газ. Потым добра выбіваюць футра і перасыпаюць яго сухім хмелем, тытунём, перцам, камфарай, кветкамі лаванды, абшываюць грубым палатном, намочаным у напары горкага палыну (яго падсольваюць). Можна нават вонкавы бок палатна нацерці воскам, а затым злёгку правесці па ім гарачым прэсам.

На дно скрыні насыпаюць тоўсты слой згаданых зёлак, дабаўляюць яшчэ кавалкі мыла і свечкі з лою і ўсё накрываюць паперай і старызнай. Зверху кладуць футра, перасыпаючы яго хмелем і тытунём.

Знішчае моль і шкіпінарны алей. Ім пырскаюць на паперу, якой абкручваюць вопратку, аднак трэба засцерагацца, каб алей не забрудзіў вопратку.

(У іншым раздзеле кнігі Ганна Цюндзявіцкая раіць абкурваць невялікую колькасць вопраткі ў ванне, накрываючы яе навошчаным палатном, якое, пэўна ж, можна замяніць поліэтыленавай плёнкай.)

## Чым кармяць куранят

Куранятам нельга даваць есці і піць, пакуль валлё ў іх не апарожніцца.

У першыя дні птушанятам даюць дробныя ячменныя крупы, добра размочаныя ў вадзе, ці проса. Некаторыя гаспадыні сыплюць ім крутыя пакрышаныя яйкі, але гэта карысна маленькім толькі пры дрыстачцы (паносе), бо яйкі яго спыняюць. У іншым жа выпадку яйка спрыяе запору, ад якога кураня можа загінуць. У харч трэба падмешваць штотыднёва невялікую колькасць зялёнай цыбулі ці зеляніну маркоўніку, каб запабегчы куранятаў ад шматлікіх хваробаў. Ваду ў плыткім посудзе трэба мяняць часта.

## Як гадаваць малых гусянятаў

У апошнія дні выседжвання гусак нельга ні на момант пускаць з гнязда, а карміць толькі на месцы. Калі гусяняты ўжо выдзеўбуцца, іх трэба пасадзіць у гаршчок з пер'ем, дзе яны павінны быць без ежы адзін ці два дні, у залежнасці ад таго, калі — раней ці пазней — пазбавяцца ад змесціва валля. Гэта лёка вызначыць: тады птушаняты робяцца жвавымі. На працягу ўсяго часу іх вымаюць па некалькі разоў з гаршка, старанна ачышчаюць пер'е, даюць магчымасць выпраміць лапкі.

Як толькі гусяняты апарожняць сваё валлё, іх неабходна ўзяць на рэшата, накрыць чымнебудзь лёгкім і знізу падкурыць шкарлупінамі ад яек, з якіх яны вылупіліся. Сачыце, каб вугаль не чадзіў (а такое можа здарыцца, калі вугаль (відаць, вуголле. — *Рэд.*) быў выпалены не да канца ці заліты нейкім тлушчам), што шкодзіць птушанятам. Як дым трохі абвее гусянят, з рэшата здымаюць накрыўку і даюць кожнаму птушаняці кляновага соку (нарыхтоўваюць ранняй вясной і захоўваюць у шчыльна закарканых бутэльках). Тым жа кляновым сокам, дадаўшы лыжку ліпавага мёду ці патакі, націраюць ім галоўкі, ноздры, дзюбы і апускаюць у яго ножкі.

Гусянят кормяць спачатку дробнымі ячнымі ці аўсянымі крупамі, разбухлымі ў вадзе, а таксама крапівой, пасыпанай аўсянай ці ячнай мукой альбо вотруб'ем. Нельга даваць ім гароху.

Добра класці гусянятам толькі што зрэзаныя кавалкі зялёнага дзірвану, а пакуль яны малыя, лепш накідаць пырніку і часта яго мяняць, альбо зялёнай жытнёвай травы. Інакш гусяняты будуць дарэмна спрабаваць рваць травіцу з дзірвану і, паколькі яшчэ слабыя, надарвуць сабе спінкі.

Калі птушаняты пачнуць апускаць крылы, іх належыць падкурваць шкарлупінамі ад яек, з якіх яны вылупіліся, і не пускаць на двор. Сачыце, каб яны не дзяўблі шкарлупіны ад яек.

На падсціл наблага ўжываць папараць, толькі трэба часта яе мяняць.

## Салямі па-італьянску

Пяць фунтаў (фунт — 350—450 грамаў) свіной палядвіцы дробненька рэжуць, адкідваючы жылы, змешваюць з дробна накрышанай і перацёртай з соллю цыбуляй. Цыбулі даюць столькі, каб у каўбасе адчуваўся добры яе прысмак. Затым сыплюць дзесяць лотаў (лот — 11 грамаў) солі, трохі перцу, усё перамешваюць і патроху напіхваюць шчыльна ў кішкі. Кішкі, каб сыходзіла паветра, наколваюць іголкай, завязваюць, потым качаюць па стале ў сурвэтцы, каб начынялася шчыльней, завязваюць шлагатам і вэндзяць.

***Таццяна ФАМІНА,***
***кандыдат медыцынскіх навук***

*Паводле статыстыкі, штогод мы губляем амаль 90 тысяч чалавек... Смяротнасць штогод «амалоджваецца».*

*Нават калі гэтыя тэндэнцыі не будуць паскарацца і застануцца на такім жа ўзроўні, то праз 111 гадоў, г.зн. да 2106 года, на тэрыторыі Беларусі не застанецца ніводнага карэннага жыхара. Беларусы вымруць...*

***Міхаіл Цяўлоўскі, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь («НГ», № 88, 1995 г.)***

## Каб выжыць

1986 год стаў пачаткам чорнай эры ў гісторыі беларускага народа — самага трывалага, цярплівага і працавітага з усіх славянскіх народаў. Разбуральны ўдар Чарнобыля падарваў генафонд нацыі, знясіліў фізічныя і духоўныя рэзервы. Цяпер на беларускай зямлі няма ідэальна здаровых людзей. Сведчаць не толькі пухліны і лейкозы ды анамаліі развіцця, але і вялікая хваля інфекцыяў з-за паніжэння імунітэту, несупыннае павелічэнне колькасці сасудзістых захворванняў, хваробаў страўнікавай, касцявой і нервовай сістэмаў.

Вядома, што ўзрост чалавека вызначаецца станам ягоных сасудаў і нервовай сістэмы. Пачатак 90-х гадоў можна лічыць пачаткам інтэнсіўнага старэння беларускай нацыі. Ніколі яшчэ ў дзяцей не дыягназаваліся так часта розныя захворванні мазгавых і сардэчных сасудаў, хрыбетнікавы астэахандроз (нават у дашкольным узросце!), розныя парушэнні рэчыўнага абмену. Астэна-неўратычны сіндром — сведчанне высільвання цэнтральнай нервовай сістэмы — становіцца звычайным для школьнікаў.

Гэтыя жахлівыя наступствы Чарнобыля павялічваюцца з-за сацыяльна-эканамічнага стану людзей, што не маюць часам магчымасці накарміць сваіх дзяцей неабходнымі харчамі. Чытаеш, як даўней у будаўніцтве бажніцаў і замкаў выкарыстоўваліся яйкі, малочныя ды іншыя прадукты, і міжволі параўноўваеш з узроўнем сучаснага стану грамадства, калі сям'я дваіх працуючых інтэлігентаў ці рабочых не можа даць рэгулярна дастаткова падобнага харчу дваім дзецямпадлеткам. А што казаць пра мяса, свежыя гародніну і садавіну, таксама неабходныя кожнаму дзіцяці, але якія сталі раскошай для шмат якіх сем'яў.

Дрэннае харчаванне дзяцей — самае ганебная і жудасная з'ява нашага грамадства. З-за гэтага стрымваецца развіццё ўсяго арганізма, дрэннае харчаванне спрыяе ўзнікненню разумовай адсталасці. Недастатковае ўжыванне бялкоў найперш адбіваецца на мышцах. Слабеюць шкілетныя мышцы, мышцы сэрца, мышцы, што рухаюць вока. З-за недахопу тлушчаў і вугляводаў, вітамінаў групаў В і С, А і Е пагаршаюцца абменныя працэсы ў мышцах, парушаюцца акісляльныя працэсы ў іх і ў нервовай сістэме, гэтак жа, як і з-за недахопу жалеза, кальцыя, калія і магнія.

Дрэннае харчаванне адбіваецца і на стане міжпазванковых дыскаў, суставаў і звязак. Недахоп мінеральных соляў паніжае трываласць касцявых тканак. Гэта стварае ўмовы для фармавання астэахандрозу ўжо ў дзіцячым узросце.

*На жаль, такі сумны пачатак публікацыяў новай рубрыкі газеты абумоўлены часам. Наогул жа ў матэрыялах рубрыкі будуць пераважаць парады пра асаблівасць харчавання і самарэгулявання пры розных распаўсюджаных захворваннях.*

## Астэахандроз? Што гэта?

Астэахандроз хрыбетніка, які проста называюць «адкладаннем соляў», узнікае ў сувязі з перанапружваннем мышцаў і з'яўляецца дэгенератыўна-дыстрафічным змяненнем хрыбетніка ды ягоных дыскаў.

Перш крыху анатоміі. Кожны хрыбетнікавы пазванок складаецца з цела, дугі і сямі адросткаў. Два сумежныя пазванкі з дыскам, які іх злучае, звязкамі і суставамі складаюць пазваночны сегмент. Міжпазванковыя дыскі служаць дзеля амартызацыі. Іх «пластычнасць» заснавана на ўласцівасцях дыскавага ядра, якое ўяўляе з сябе дрыгністае (падобнае на квашаніну) рэчыва. Ядро мае ўласцівасці паглынаць вільгаць, а таму можа павялічвацца больш чым удвая. Стан ядра залежыць і ад узросту. Чым маладзей чалавек, тым больш вільгаці ў ядры. Прыкладам, у немаўлятаў ядро мае 90 працэнтаў вады, а ў старых людзей — 60 працэнтаў.

Ядро стомленага чалавека вільгаць і памяншаецца, а таму стомлены чалавек будзе ніжэй. Кожны з нас увечары ніжэй на 2—4 сантыметры, чым быў раніцай. Дыскавае ядро з краёў абмяжоўваецца фіброзным кольцам, якое складаецца з храстковай масы, пругкай і трывалай.

Спажыўныя рэчывы трапляюць у дыскі з пазванковага цела шляхам дыфузіі пры чаргаванні сціскання і паслаблення хрыбетніка. Чым часцей чаргаванне, тым лепшым будзе сілкаванне дыскаў. Працяглае ж сцісканне хрыбетніка, прыкладам, пры працяглым утрыманні адной позы, пагаршае сілкаванне дыскаў. Чым большая нагрузка на хрыбетнік (пры працяглай працы седзячы, стоячы каля станка, каля накрыснай дошкі, у спартсменаў, шафераў, шахцёраў ды ў людзей іншых прафесіяў, тым хутчэй зношваюцца дыскі, трацяць сваю пругкасць. З цягам часу яны становяцца тонкімі і жорсткімі пракладкамі, якія не могуць пружыніць.Такое патанчэнне дыскаў відаць і на рэнтгенаўскіх здымках.

«Хрыбетнікавыя» пакуты пачынаюцца з заўчаснага «старэння» асноўнай часткі хрыбетніка — ягоных мышцаў. Слабеюць мышцы — нагрузкі на дыскі, суставы і пазванкі рэзка павялічваюцца.

Можна сцвярджаць, што пачатковай клінічнай і рэнтгеналагічнай прыкметай астэахандрозу з'яўляецца выроўніванне шыйнага і паяснічнага хрыбетнікавых выгібаў (лардозаў), што сведчыць пра дрэнны функцыянальны стан мышцаў, якія фармуюць і падтрымліваюць гэтыя выгібы. Гэтую стадыю захворвання лічаць функцыянальнай, таму што змены яшчэ не замацаваліся і верагоднае вяртанне да нармальнага стану.

Калі ж не пачаць лячыцца, то тонкі і жорсткі дыск не зможа выконваць сваю функцыю — амартызатара, — і пазванкі могуць «сасклізваць», зрушвацца, ссоўвацца. Зрух пазванковых целаў адбіваецца і на суставах. Іх капсулы расцягваюцца, паверхні суставаў таксама зрушваюцца, ссоўваюцца. Магчымы зрух усяго пазванковага сегмента і нават ягоных падвывіх. Каб кампенсаторна абмежаваць зрух такога сегмента і павялічыць яго моц, з краю сустаўных паверхняў, а пасля і на пазванковых целах пачынае расці костная тканка.

Такім чынам, як і пры натуральным старэнні, у працэс фармавання астэахандрозу паслядоўна ўключаюцца мышцы, дыскі, суставы і целы пазванкоў. У сувязі з тым, што такія змяненні развіваюцца хутка і ў любым узросце, астэахандроз можна лічыць за паталагічнае старэнне хрыбетніка.

Ці асуджаны мы і нашыя дзеці — хто мае прыкметы такога паталагічнага стану — весці абмежаванае жыццё хворага чалавека? Не. Лячэнне асабліва дзейснае, калі пачаць яго ў ранняй стадыі астэахандрозу, калі зменай кранулы толькі мышцы.

*Пра тое, што ўвядзе да перагрузак мышцаў і пачатку захворвання, якое называем астэахандрозам, чытайце ў наступным нумары.*



У студыі «Скарбонка» Салігорскага цэнтра дзіцячае творчасці займаецца шмат школьнікаў. Майстар народных промыслаў Мікалай Аляксеевіч Пратасеня навучае іх ганчарнаму рамяству. Дзеці з задавальненнем вырабляюць прыгожы гліняны посуд, забаўныя цацкі ды свістулькі.

**На здымку:** Выхаванцы студыі **Ангяліна Свірская, Алена Лаўрыновіч** з сваімі вырабамі.

**Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ, Белінфарм.**





## СЛУХАЙМА БЕЛАРУСКІЯ ПЕРАДАЧЫ З ВАРШАВЫ

Ужо тры гады ў пятай праграме Польскага Радыё для замежжа працуе Беларуская Рэдакцыя, якая інфармуе пераважна грамадзянаў Рэспублікі Беларусь пра сітуацыю ў Польшчы ды беларуска-польскае супрацоўніцтва ў розных галінах. Для тых, хто цікавіцца беларускімі перадачамі з Варшавы, публікуем фрагмент дасланай у рэдакцыю «Нашага слова» ўлёткі. Сапраўды, хто ведае — чым для нас можа стаць у будучыні Беларуская Рэдакцыя Польскага Радыё?

**Г.КАЖАМЯКІН.**

*У старых фаліянтах*

## Пазыка для ўрада

Урад імператара Францішка-Юзафа апынуўся ў цяжкім фінансавым становішчы. Ён звярнуўся да аднаго банкіра з просьбай выдзеліць шматмільённую пазыку. Пасля доўгіх перамоваў быў прызначаны тэрмін падпісання дамовы.

У прызначаны дзень банкір на сваёй карэце пад'ехаў да сядзібы ўрада, каб падпісаць дамову. Перад палацам яго чакаў першы міністр імператара. Ён шчыра павітаў банкіра і, узяўшы яго сардэчна пад руку, правёў у палац. Па дарозе прэм'ер канфідэнцыяльна звярнуўся да банкіра:

— Пане банкір, ваш сын небяспечны анархіст. Было б лепей, калі б вы адправілі яго за мяжу. У адваротным выпадку мы будзем вымушаныя арыштаваць яго.

Банкір штосьці буркнуў сабе ў нос. Калі яны ўвайшлі ў прыгатаваную залу, то там вакол стала стаялі ўжо сябры ўрада. На стале ляжалі тэксты дамовы, а побач ручка з залатым пяром. Банкір сеў на ўказанае месца, узяў у руку асадку, але потым адклаў яе і сказаў:

— Я не падпішу гэтай дамовы.

— Але чаму, пане банкір, — спытаў прэм'ер, — можа вы не давяраеце манархіі?

— Так, — адказаў банкір, — бо што гэта за манархія, якая баіцца майго Монькі?

### Яўрэй і каліф

Калісьці жыў каліф, які ненавідзеў яўрэяў. Ён выдаў такі загад: «Кожны яўрэй, які перасячэ мяжу майго каралеўства і будзе затрыманы вартаю, мусіць штосьці расказаць пра сябе. Калі зманіць — будзе расстраляны, калі ж скажа праўду — будзе павешаны».

Гэткім парадкам каліф хацеў знішчыць усіх яўрэяў у сваім краі. Аднаго дня нейкі яўрэй перайшоў мяжу каралеўства. Калі варта падступіла з допытамі да яго, ён сказаў:

— Сёння я буду расстраляны.

Вартаўнічыя не ведалі, з чаго пачаць. За радай падаліся да самога каліфа. Каліф задумаўся: што рабіць?

— Відавочна, што гэта цяжкая справа. Калі я загадаю расстраляць таго яўрэя, то значыць, што ён сказаў праўду. У такім разе ён павінны быць павешаны і я такім парадкам магу загадаць расстраляць яго. Калі ж загадаю павесіць яго, то значыць, што ён маніў. Калі ён маніў, то паводле выданага праз мяне права ён павінны быць расстраляны. Значыцца, я не магу загадаць яго павесіць.

**Вычытаў Алег ДЫШЛЕВІЧ.**

## ПАЧУТАЕ «У ЛЯВОНА»

* * *

— Падсудны, чаму вы адмаўляецеся ад апошняга слова?

— Гэта не патрэбна, грамадзянін суддзя. Усё, што трэба было, сказаў мой адвакат, а ўсё, што не трэба было гаварыць, сказаў пракурор.

* * *

— Тата, а ці рачныя рыбы пацеюць, — пытаецца сынок у бацькі-рыбака.

— Не, — адказвае той.

— А марскія?

— Марскія, мабыць, пацеюць. Інакш мора не было б салёнае.

* * *

— Курыў, курыў — і ўжо не курыць: пахавалі.

* * *

Міканор, па мянушцы Хвалько, вельмі любіў пахваляцца сваім уменнем гандляваць. Аднаго разу ён і кажа суседу:

— Вось, братка, ад мяне ніводзін чалавек не адыдзе, не купіўшы. Я б і цябе хоць сто разоў на дзень прадаў бы.

— Няма чаму дзівіцца, — адказвае сусед, — відаць, я нешта варты, калі б мяне куплялі нарасхват. Але вось цябе ніводнага разу не патрапіў бы прадаць, хоць сто разоў хадзіў бы на кірмаш.

### Армейскія скрыжалі

— Кароткімі перабежкамі — ад мяне да наступнага дуба, марш!

— Маўчаць! Або я буду зараз гаварыць.

— Абутак трэба чысціць з вечара, а раніцою надзяваць на свежую галаву.

— Курсант, калі вы хочаце нешта сказаць, то лепей памаўчыце.

**Учуў І.АБРОСІМАЎ.**

*Пародыі*

*Георгій ЮРЧАНКА*

## Да нязведаных вышыняў

*У рызманах ночы*
*вуснамі вусны шукаю*
*................................*
*У празрыстай панчосе твая нага*
**Ігар БАБКОЎ.**

Над Еўропай жыруе эпоха
райскага сну.
Твае ногі чамусь у панчохах,
нягледзячы на вясну.

Мойры выткалі цьмянь расстання,
што ад сутвы цвярдзей.
Паркалёва-знікомы станік
засланяе святло грудзей.

Струмкі дворнік усхлёпіста бразне
звязкаю верлівых мар.
Па-над безданню Леты не гасне
распусны ліхтар.

Перасталі ісці ў галаву сны,
замсты лепш не крані.
Ноч паблытала пяткі і вусны,
надзем'е — у мітусні.

Душыць сінтаксіс дух неспатольны,
значыць, яго — далоў!
Адасплюся ў сунічнасці вольнай —
стану тварыць без слоў!..

## Афарызмы

Мудрасцю не гандлююць. (Мудрасць не купляюць).

Усе нарачоныя прыгожыя, усе нябожчыкі святыя (пабожныя).

Кожны паўпрарок — гэта поўны дурань.

Ілгун мусіць мець добрую памяць.

Непрыгожая дзяўчына ненавідзіць люстэрка.

Калі карта не ідзе, то не дапаможа ані мудрасць, ані набожнасць.

Калі млынар пабіўся з камінарам, то першы вярнуўся дахаты чорны, а другі — белы.

Дурня, які маўчыць, можна палічыць за мудраца.

Калі бядняк хоча пафарсіць, то ён есць боршч з пернікам.

Калі хтосьці паводзіць сябе як дзіця ў 20 гадоў, то ён застанецца дурнем да канца жыцця.

Калі ты маеш рэпутацыю чалавека, які ўстае з сонцам, то можаш спакойна паспаць да паўдня.

Нельга адначасова танчыць на двух вяселлях, гэтак сама як і сядзець адным задам на двух канях.

У кожным месце свой дурань.

**З польскай пераклаў Алег ДЫШЛЕВІЧ.**

## Крыжаванка-пераклад



**Па гарызанталі**: 5. Родник. 6. Щелкун. 10. Скромность. 13. Хлопанье (крыльями), лопотание. 16. Невод. 17. Грусть, уныние. 18. Пчельник; лесосека. 19. Петух. 23. Убыточный. 24. Перловая крупа. 25. Индюк. 29. Единомышленник. 31. Заправка, приправа. 32. Загнетка ( в печи).

**Па вертыкалі**: 1. Ворота. 2. Прозябать. 3. Поземка; метель. 4. Сугроб. 7. Перечисление, перечень. 8. Веточка. 9. Воздух. 11. Натравить. 12. Переносной. 14. Горечь. 15. Выездной (о коне). 20. Пригорок, холм. 21. Наковальня. 22. Сверток. 26. Отлагательство. 27. Плохой, скверный. 28. Приданое. 30. Ряд.

**Склала Л.ШНІП.**


Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 1759

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5991 паасобнік.
Падпісана ў друк .05.1995 г.
у 15 гадзін.